



Zygmunt trzeci

# СВЯТЫ КАЗІМІР У ПААЗЕР'І

*400 гадоў каталіцызма ў Лепельскім краі*







Лепель 2004

*Кніжка выдаецца ў 400-ую гадавіну Лепельскага касцёла Св. Казіміра і прысвячаецца першаму дэкану адроджанага Лепельскага дэканату Мячыславу Янчышыну з пажаданнямі яшчэ доўгіх гадоў жыцця, душпастарскіх і будаўнічых прац на Беларусі.*

*Выдаўцы.*



***Здымак на вокладцы:***
***Касцёл Св. Казіміра . Брама.***
***Фота А. Астроўскага (Лепель)***

# СВЯТЫ КАЗІМІР
# У ПААЗЕР’І

*400 гадоў каталіцызма ў Лепельскім краі*

## Змест



Левабярэжная частка Полацкага ваяводства на мапе Рыцы-Заноні, 1770-я гг.

# 400 ГАДОЎ КАТАЛІЦЫЗМА Ў ЛЕПЕЛЬСКІМ КРАІ

Сёлета спаўняецца 400 гадоў (1604-2004) лепельскаму касцёлу Св. Казіміра, першаму з касцёлаў былога Лепельскага павету. Лепельскі павет, на тэрыторыі якога быў створаны Лепельскі дэканат, утварыўся пасля далучэння ў 1793 г. да Расійскай імперыі той часткі Полацкага ваяводства, якая ў 1772 г., пасля I падзелу, засталася ў Рэчы Паспалітай. У 1772-1793 гг. гэтая тэрыторыя лічылася Полацкім ваяводствам (хаця сам Полацк з тэрыторыяй па правым беразе Дзвіны адышоў да Расіі). Адміністратыўным цэнтрам ваяводства лічыліся Ушачы, якія, як і ўсе астатнія мястэчкі ваяводства, не былі прыстасаваныя да такіх важных функцый, бо не мелі прыстойных будынкаў. Сеймікі Полацкага ваяводства ва Ўшачах, самыя мізэрныя ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, праводзіліся ў тутэйшым дамініканскім касцёле: іх вельмі маляўнічае апісанне стварыў славуты пісьменнік XIX ст. Ігнацы Ходзька.

Левабярэжная частка Полацкага ваяводства ВКЛ здаўна была населеная больш шчыльна за паўночную. Аднак да другой паловы XVI ст. мясцовае насельніцтва было яшчэ дастаткова рэдкім, бо большая частка тэрыторыі была пакрытая лясамі. Пераважным заняткам было не земляробства, а рыбалоўства, паляванне, бабраўніцтва, лясныя промыслы. Таму яшчэ ў 1550-х гг. большая частка тутэйшага сялянства заставалася асабіста вольным, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў ВКЛ, дзе інтэнсіўна ішло запрыгоньванне. Напамінам пра тыя часы служыць тапаніміка краю з характэрнымі толькі для гэтай часткі Беларусі назвамі вёсак: Двор Бабча, Двор Суша, Двор Нізгалава, і г.д., размешчанымі побач з амаль аднайменнымі Бабчай, Сушай, Нізгалавам. Панскія фальваркі тут узнікалі спачатку побач з вёскамі, заселенымі асабіста вольнымі сялянамі, і працэс запрыгоньвання, праз доўгую судовую казуістыку, вымагаў даўжэйшага, чым дзе-кольвечы, часу. Патрыярхальны лад у краі захоўваўся яшчэ вельмі доўга. Нават пасля скасавання прыгону ў 1861 г. землекарыстанне заставалася пераважна абшчынным, як і многія стагоддзі раней. Цэнтр павету быў канчаткова перанесены ў Лепель у 1802 г. У 1805 г. мястэчка перайшло ад віленскага кляштару бернардынак да дзяржавы і стала павятовым горадам. Прыкладна ў той жа час утварыўся лепельскі дэканат рымска-каталіцкай царквы. З каталіцкай шляхты Лепельскага павету ў XIX ст. выйшла нямала вядомых людзей: Арцём Вярыга-Дарэўскі (1816-1884), адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры; Іасафат Агрызка (1826-1890), вядомы пецярбургскі выдавец, публіцыст, эрудыт, палітычны дзеяч; буйны сібірскі прадпрымальнік Альфонс Козел-Паклёўскі (1809-1890) і інш. Нямала

яскравых асобаў далі і грэка-каталікі лепельскага краю, а таксама іх нашчадкі, пасля 1839 г. навярнутыя ў праваслаўе: мастак Іван Хруцкі (1810-1885), пісьменнік Аляксандр Пшчолка (1869-1943) ды інш. Большасць шараговых лепельскіх каталікоў XIX ст. была карэннымі беларусамі, нядаўнімі выхадцамі з сялянаў-уніятаў. Па-беларуску размаўляла і значная частка тутэйшай шляхты, - яскравым прыкладам чаго ёсць пан Станіслаў Сьвебода з “Успамінаў квестара” Ігнацыя Ходзькі. Першым у Лепельскім дэканаце (на пачатку XX ст.) пачаў прамаўляць па-беларуску кс. Мяжвінскі з Улы, які, на жаль, быў вельмі хутка высланы ўладамі.

На жаль, гісторыя каталіцкага касцёлу, каталіцкай цывілізацыі ў Падзвінні сёння амаль невядомая шырокай публіцы. Гэтая публікацыя − спроба крыху паправіць такое прыкрае становішча.

# СВЯТЫ КАЗІМІР КАРАЛЕВІЧ



***Абраз Св. Казіміра з сучаснага інтэр"ера Лепельскага касцёла***

Святы Казімір нарадзіўся ў кастрычніку 1458 г. у сям'і караля Польшчы і валадара Вялікага княства Літоўскага Казіміра IV Ягелончыка, ад шлюбу з Элжбетай Аўстрыйскай. Ад дзяцінства вылучаўся асаблівай рэлігійнасцю. Як хатнія выхаваўцы яму былі запрошаныя: гісторык Я.Длугаш, выкладчык Ягелонскага універсітэту Канта, італьянскі пісьменнік Ф.Калімах. Будучы малодшым сынам караля, вымушаны быў на чале 12-тыс. войска прытэндаваць на вугорскі прастол. Пасля таго як старэйшы брат заняў чэскі прастол, стаў спадкаемцам польскага і вялікакняскага прастолу. Ад гэтага часу часта бываў у Вільні, дзе дабрачыннасцямі і пабожным ладам жыцця заслужыў аўтарытэт гараджанаў. Хворы на сухоты, даў зарок цнатлівасці і адмовіўся ад шлюбу з дачкой германскага імператара. З траўня 1483 г. па выкліку бацькі стала знаходзіўся ў Вільні. На Божае Нараджэнне 1483 г. паехаў у Гародню, дзе стан ягонага здароўя імкліва пагоршыўся. У сакавіку наступнага новага году яго перавозяць у Вільню, дзе ён і прадстае перад Панам. Будучы пахаваным у каралеўскай капліцы Віленскай Катадры, Казімір застаецца са сваймі віленчукамі і здзяйсняе там цуды аздараўлення. Гэта і павадуе яго кананізацыю ў 1522 г. Але кананізацыйная была нейкім чынам знікла ў дарозе



Капліца Св. Казіміра ў Катэдральным касцёле Вільні

з Рыму, і толькі ў 1602 г. папа Клімент VII аднаўляе справядлівасць, пашырыўшы шанаванне культу Святога па ўсім каталіцкім свеце. Дасёння ён вельмі папулярны ў краінах Лацінскай Амерыкі. Культ Святога пакінуў трывалы след у культуры і мастацтве нашых земляў. Св. Казімір каралевіч вызнаецца патронам Вільні і ўсяго ВКЛ, а з 1991 г. і Гарадзенскай дыяцэзіі. Ад моманту кананізацыі праводзіцца адмысловае набажэнства 4 сакавіка, ў Вільні гэта яшчэ і святочны кірмаш "Казюкас". (наведаць Вільню ў часе святкавання можа кожны звярнуўшыся ў суполку "Пілігрым" пры Чырвоным касцёле ў Менку.Тэл 220 0236.)

**Атрыбуты Св. Казіміра:** мітра; надпіс пры руцэ: Omni die (першыя словы гімна пра Св. Казіміра – Omni die Marie – "кожнага дня маліся Марыі").

У Лепельскім дэканаце ў гонар Св. Казіміра былі названыя касцёлы ў Лепелі (з 1604 г.), у Камені (з 1796 г.) і ў Бешанковічах (з 1650 г.). Лепельскі касцёл быў адным з самых першых у імя Казіміра каралевіча, пачаў будавацца ў 1602 г., адразу пасля кананізацыі. Адначасова з Лепельскім касцёлам, уфундаваным канцлерам ВКЛ Львом Сапегам, сам кароль Жыгімонт Ваза пачаў будаваць касцёл Св. Казіміра ў Магілёве, таксама скончаны ў 1604 г. Відавочна, абодва касцёлы будаваліся паводле ўмовы Л. Сапегі з каралём Жыгімонтам.

# ГІСТОРЫЯ ЛЕПЕЛЬСКАГА КАСЦЁЛА

*Аліна СТЭЛЬМАХ*

*Найбольш раннім выданнем, якое змяшчае інфармацыю па гісторыі Лепеля можна лічыць кнігу А.А. Бэз-Карніловіча " Гістарычныя звесткі аб славутых мясцінах у Беларусі" , выдадзеную ў Санкт-Пецярбурзе ў 1855 г. У "Памятных кніжках Віцебскай губерніі" за 1864-1914 гг. таксама змяшчаюцца звесткі з гісторыі Лепеля. Найбольш поўна знайшла адлюстраванне гісторыя горада ў кнізе Дз.І. Даўгялы Лепель, павятовы горад Віцебскай губерні", якая выйшла ў Віцебску ў 1905 г. Пры напісанні кнігі аўтар карыстаўся многімі не захаваўшыміся да гэтага часу дакумантамі, ў тым ліку з Лепельскага архіву. Лепелю прысвечаная кніга "Лепельскі павет Віцебскай губерніі" на польскай мове М. Ф. Кусцінскага, што выйшла ў Варшаве ў 1903 г. Цікавай з'яўляецца кніга "Нашы касцёлы", прысвечаная каталіцкім храмам Магілёўскай дыяцэзіі. Тут мы знаходзім кароткае апісанне Губінскага і Лепельскага касцёлаў. Змяшчаюцца звесткі аб Лепелі ў кнізе І.Г.Гарбачэўскага "Лепельскі павет Віцебскай губерніі" і ў "Беларускіх старажытнасцях" А.М. Семянтоўскага (СПб. 1890).*

Сёння Лепель – невялікі гарадок Віцебскай вобласці з 20-тысячным насельніцтвам, размешчаны на паўднёвым беразе Лепельскага возера. У XV ст. Стары Лепель стаў вялікакняскім уладаннем. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ўпершыню ў 1439 г. , калі намаганнямі ксяндза Кухарскага, Міхал, сын вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча аддаў лепельскі маёнтак Віцебскаму рыма-каталіцкаму касцёлу[1]. У 1503 г. вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч зацвердзіў падарунак князя Міхала Жыгімонтавіча. У 1541 г. кароль Жыгімонт І, са згоды папы рымскага, далучыў лепельскі маёнтак да Віленскай катэдры[2]. У 1563 г. Віленская катэдра, не маючы сілы абараніць уладанні ад нападаў маскоўскага войска, аддала Лепель Жыгімонту ІІ Аўгусту пад умову, што калі кароль захоча пакінуць сабе лепельскі маёнтак, павінен аддаць капітуле велічыню яго кошту. Кароль не выканаў гэтую дамову і аддаў гэтыя землі Юрыю Зяновічу, полацкаму кашталяну, а пасля яго смерці полацкаму ваяводзе Мікалаю Манівіду Дарагастайскаму. Стэфан Баторы у 1579 г. вярнуў гэтыя землі Віленскай капітуле.[3]

У 1586 г., 19 мая, Віленская капітула, не маючы магчымасці абараняць маёнтак "Лепле", за дванаццаць сот грошай лічбы і манеты Вялікага княства



*Славуты дзяржаўны дзеяч Леў Сапега, рэдактар Статуту ВКЛ, фундатар лепельскага касцёла Св. Казіміра.*

Літоўскага яго міласці пану Льву Іванавічу Сапегу падканцлеру Вялікага княства Літоўскага, дзяржаўцу Маркаўскаму і Мядзельскаму… з гарадзішчам на востраве, на якім ад слаўнае святое памяці караля яго міласці Жыгімонта староста тамтэйшы замак будаваць пачаў з мястэчкамі і ўсімі царквамі Божымі…”. Кароль Жыгімонт III 12 лютага 1589 г. падцвердзіў “набыццё падканцлерам ВКЛ Львом Сапегам у Віленскай рымска-каталіцкай капітулы маёнтка Лепля”[4]. Леў Сапега валодаў ужо да гэтага часу сялом Белае на паўднёвым беразе Лепельскага возера. У пачатку XVII ст. ён перанёс сюды маёнтак, які атрымаў назву Новы або Белы Лепель. У 1604 г. Леў Сапега будуе ў сваім мястэчку царкву і касцёл. У 1609 г. ён падарыў Новы і Стары Лепель з навакольнымі вёскамі віленскім манахіням-бернардынкам[5]. У 1714 г. манахамі-францішканамі ў в. Губіна пабудаваны кляштар св. Антонія[6]. Па II падзеле Рэчы Паспалітай у 1793 г. лепельскія землі адыйшлі да Расеі. З 1802 г. Лепель стаў цэнтрам павету Віцебскай губерні. У 1805 г. мястэчка Лепель паводле ўказу Аляксандра І стала павятовым горадам[7]. У 1876 г. у Лепелі памешчыкам Людвікам Мальчэўскім завершана будаўніцтва мураванага касцёла Св. Казіміра[8].



*Дзмітрый Іванавіч Даўгяла (1868—1942), вядомы беларускі гісторык, першы даследчык гісторыі лепельскага касцёла Св. Казіміра.*

У кнізе “Лепель, павятовы горад Віцебскай губерні” Дз. І. Даўгяла падрабязна апісвае гісторыю касцёла: Каля 1602 г. канцлер ВКЛ Леў Сапега загадаў у мястэчку Новы Лепель пабудаваць касцёл. 11 кастрычніка 1602 г. папам Кліментам VIII быў дадзены дазвол віленскаму біскупу на прыняццё пад свой патранат лепельскага касцёла і кляштара[9]. У 1604 г. Леў Сапега робіць наступны фундшны


Zygmunt trzeci

*Акт фундацыі Л. Сапегам лепельскага касцёла Св. Казіміра.*



*Кароль Польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Ваза.*

фундатарскі запіс на карысць лепельскага касцёла: “У імя Пана Амэн. Я, Леў Сапега, канцлар ВКЛ, стараста Слонімскі, Парнаўскі, Магілёўскі і інш. Усім наогул і кожнаму пасобку, каму б тое належала, цяперашнім і будучым пакаленням людзей, аб’яўляю, што дзеля чэсці і хвалы Пана Бога ўсемагутнага, у Тройцы адзінага, я пабудаваў касцёл у імя Св. Казіміра ў сваім мястэчку Новы Лепель, якое знаходзіцца над ракою Ула, у Полацкім ваяводстве. І на гэты касцёл даю на правах вечнага і неад’емнага карыстання запісваю: па-першае, пляц, на якім стаіць касцёл з цвінтаром, а да гэтага пляца чатыры валокі на школу, на шпіталь і на гароды плябану…, а звыш таго сяло Лядна, ў якім, па зноў выпраўленым вымярэнні 30 валокаў… У дадатак арандатар лепельскіх корчмаў абавязаны штогод пад Новы год даваць плябану паўпуда воску, і арандатар з Новага Лепеля другія паўпуда воску. Патронам таго касцёла лепельскага прызначаю… толькі самага яго міласць біскупа Віленскага, які па смерці аднаго плябана на месца яго без якой затрымкі прызначаў бы другога, прытым такога, які б там, пры касцёле меў месца жыхарства. Пісана ў Вільні ў лета ад нараджэння Сына Божага 1604, месяца жніўня, 6 дня”.

Жыгімонт ІІІ 8 чэрвеня 1610 г. зацвердзіў гэты падарунак Сапегі. Гэта быў адзін з першых трох касцёлаў ва ўсёй Полацкай зямлі[10]. 26 сакавіка 1610 г. у Новым Лепелі ксёндз-плябан прыняў усю перададзеную паводле фундушу нерухомую маёмасць ад даверанай асобы канцлера Сапегі. У 1609 г. уладальнік Лепеля і Новага Лепеля, канцлер Сапега, падараваў абодва мястэчкі з вёскамі:





**Віленскі касцёл Св. Міхала, уладальнік Лепеля і ваколіцаў да 1805 г. Сучасны выгляд.**

**Надмагілле Л. Сапегі і дзвюх ягоных жонак у віленскім касцёле Св. Міхала. Сучасны выгляд.**

Стаі, Лепель, Белае, Бароўна, Залессе, Слабада, Зорніца, Жэжліна, Поўсвіж віленскім сёстрам-бернардынкам. 13 мая 1617 г. галоўны Літоўскі трыбунал зацвердзіў дарунак Сапегі[11]. Зямельнае наданне Л. Сапегі мела на мэце забяспечыць матэрыяльна ўфундаваны ім у 1594–1597 гг. Віленскі кляштар бернардынак з касцёлам Св. Міхала Арханёла. Ад самога пачатку планавался, што тут будзе сямейны маўзалей Сапегаў. Надмагілле Л. Сапегі і дзвюх ягоных жонак, самае вялікае ў ВКЛ, захавалася тут і да нашых дзён.

У 1654 г. ксяндзом Сымонам-Адальбертам Млынецкім праведзеная рэвізія Лепельскага касцёла. Ксёндз Млынецкі прыехаў у Лепель 24 чэрвеня 1654 г., але лепельскага ксяндза не заспеў. Той нібыта з прычыны нашэсця маскоўскага войска, тры дні таму пакінуў парафію і паехаў невядома куды, забраўшы з сабой найбольш каштоўныя рэчы і мясцова шанаваны абраз Маці Божай. Візітатар зрабіў знешнее апісанне Лепельскага касцёла Св. Казіміра і дома ксяндза.

Касцёл быў пабудаваны ў выглядзе напаўавальнага карабля (*figurae semiovalis*). Сцены да гэтага часу ужо падгнілі. Памяшканню быў патрэбны рамонт. Вокнаў было 3 вялікія і 2 маленькія. Падлога з няправільнай цэглы. Ганак, які вёў у касцёл, зроблены з калоў. Каля касцёла, на цвінтары, была

званніца над вялікай брамай, пабудаванай у выглядзе вежы, на ёй 3 званы, у тым ліку адзін у восем пудоў. Цвінтар абнесены парканам з бярвення. ”У касцёле было 3 алтары…Вялікі, – у ім распяцце з Маці Божай і Янам Багасловам, унізе – абраз Св. Мікалая, уверсе – Св. Казіміра, патрона ВКЛ, а на самым версе імя “ JESUS “ , напісана золатам і срэбрам. Другі – новы алтар Божай Маці, абраз якой напісаны на дрэве, славуты дабрадзействамі і ласкамі (*beneficiis et gratiis claret*): гэты абраз узяты ксяндзом і пастаўлены на яго месца другі маленькі абразік Прасвятой Дзевы са Спрадвечным Дзіцем на руках, уверсе – Св. Дамінік які моліцца перад Распяццем, а на самым версе імя “MARIA”. Трэці алтар з пары абразоў – унутраны Прасвятой Дзевы на воблаках з Дзіцяткам Ісусам, а уверсе распяцце з перадстачымі. На самым жа версе абраз Св. Казіміра[12] . У касцёле яшчэ знаходзілася яшчэ 10 абразоў, арган на 10 галасоў, ўжо разламаны, вопратка і прадметы для выканання абрадаў. Плябанія знаходзілася побач з касцёлам на фундушовай зямлі. Дом быў вялікі з нізкім дахам. Побач каменная са скляпеннямі лазня на два пакоі, і алькеж у пярэднім пакоі. Увесь двор абгарожаны парканам, з варотамі. Касцёлу належала 18 падданых, якія жылі паблізу Лепеля на участках зямлі[13] .

У 1779 г. 8 верасня ў мястэчку Новы Лепель успыхнуў пажар. У часе яго згарэла ўніяцкая царква і касцёл, пабудаваны яшчэ Сапегам у 1604 г. Так паведаміў пробашч Лепельскага касцёла на імя гараднічага 30 студзеня 1854 г[14] . Вядома, што ў 1817 г. пры касцёле была школа. Неўзабаве замест згарэўшага ў 1779 г. быў пабудаваны новы касцёл. Калі і кім, дакладна невядома. Ён быў драўляны, з часанага лесу на каменным падмурку, памерам 15 на 8 2/3 сажані, з вежамі 10 сажаняў вышынёй, двума сутарэннямі, выкладзенымі цэглай. Ксёндз Язэп Мікоша ў 1833 г. склаў спіс страт, панесеных касцёлам пры пажары. Гэты спіс прыводзіць Дз. Даўгяла ў вышэй згаданай кнізе. Са спісу бачна, якая маёмасць была ў касцёле: арган, 1 Эвангелле, 2 трэбнікі, 1 рама абраза Св. Антонія, шафа, 15 хітонаў тканых, 1 падрызнік, 5 ручнікоў, 3 прастольныя вопраткі, 9 лавак, 1 званніца, новапабудаваная, і гэтак далей. З дадзенага пераліку можна зрабіць выснову аб беднасці касцёла[15] .

У ноч з 27 на 28 красавіка 1833 г. у Лепелі здарыўся жахлівы пажар, які знішчыў амаль чвэрць горада. Пацярпела самая густанаселеная частка. Пажар пачаўся “з зыходу 2-й гадзіны апоўначы ў нежылой пабудове (хляву) лепельскага мешчаніна Лур'е”. Прычына засталася да канца невысветленай, а пажар хутка распаўсюдзіўся, таму што пабудовы былі ў асноўным драўлянымі, і прытым вельмі шмат саламяных дахаў. У начны час, пры моцным ветры, агонь вельмі хутка перайшоў на іншыя будынкі. Згарэлі кварталы вакол гандлёвай плошчы, уніяцкая царква, рыма-каталіцкі касцёл, крамы, адно службовае месца[16] . Аб згарэўшым касцёле вядома мала, упамінаецца ў дакументах XIX ст. драўляны касцёл. У 1852 г. парафіянаў лепельскага

касцёла налічвалася 1719 чалавек.[17]

Пасля пажару 1833 г. набажэнствы для каталікоў адбываліся ў старым драўляным касцёле, пабудаваным з плябаніі і жылой хаты[18]. У самім горадзе Лепелі ў гэты час было ўсяго 16 дамоў каталікоў. Іншыя парафіяне жылі бліжэй да касцёлаў у Чашніках, Ушачах, Камені. У вялікіх маёнтках Пышна, Ворань, Завідзічы былі капліцы, дзе ў святочныя дні адбываліся набажэнствы. Таму ўлады лічылі, што трэба адну з капліцаў зрабіць парафіяльным касцёлам, або прылічыць парафіянаў Лепельскага касцёлу да іншых парафіяў[19].

На працягу наступных 20-ці год падымалася пытанне аб будаўніцтве ў Лепелі каталіцкага храму. У 1836 г. на месца будаўніцтва былі дастаўлены камень, цэгла, дрэва. Мясцовы ксёндз Віняровіч ужо збіраўся прыступіць да ўзвядзення будынка, але паліцыя папярэдзіла, што без зацвярджэння плана нельга пачынаць будаўніцтва[20]. У 1836 г. рымска-каталіцкая духоўная калегія звярталася ў Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай дазволіць будаўніцтва касцёла ў Лепелі, але атрымала адмову. У студзені 1857 г. дазвол быў нарэшце атрыманы, а 8 сакавіка за № 558 Магілёўскі архіепіскап, мітрапаліт рыма-каталіцкіх цэркваў Расійскай імперыі, паведаміў на імя лепельскага дэкана кс. Кераноўскага аб дазволе памешчыку Мальчэўскаму пабудовы мураванага касцёла ў Лепелі[21]. У сакавіку таго ж году ва ўпраўленне шляхоў зносін і публічных будынкаў быў дастаўлены праект архітэктара Мачулевіча на пабудову мураванага касцёла ў Лепелі. У маі дэпартамент праектаў і каштарысаў прапанаваў перапрацаваць праект для "прыстойнасці фасада", як паказана на прадстаўленым пры гэтым замененым праекце[22]. Абодва праекты паступілі на разгляд да галоўнага кіраўніка спраў упраўлення шляхоў зносін і публічных будынкаў, які знайшоў купалы на новым праекце "нездавальняюча прыстойнымі" і прызнаў першапачатковы праект больш пажаданым. Галоўны ўпраўляючы аддаў распараджэнне перачарціць пачатковы праэкт з заменай драўлянага звода мураваным"[23]. У выніку першапачатковы праект, часткова перапрацаваны, быў накіраваны ў Лепель. Гэты праект у архівах ня знойдзены. 13 ліпеня 1857 г. галоўны ўпраўляючы з вышэйшага дазволу зацвердзіў план пабудовы касцёлу ў г. Лепелі[24].

Памешчык лепельскага павету, калежскі асэсар Пётар Антонавіч Мальчэўскі прапанаваў пабудаваць касцёл на свае асабістыя сродкі і летам 1857 г. пачаў закладку падмурку[25]. Падмурак быў асвечаны мітрапалітам Жылінскім. У 1859 г. былі ўзведзеныя сцены з двума з фронта вежамі, зроблены бляшаны дах[26]. Будаўніцтва было спынена[27]. У 1863 г. сакратар віцебскай статыстычнай камісіі А.М.Семянтоўскі ў "Памятнай кніжцы Віцебскай губерні на 1864 г." зрабіў запіс: " У Лепелі… рымска-каталіцкі касцёл адзін драўляны, але побач з гандлёвай плошчай будуецца другі – мураваны, вельмі прыгожай архітэктуры"[28]. У фондах НДГА РБ захоўваецца перапіска пробашчаў, якія

змянялі адзін аднаго на працягу 1857−83 гг., з рознымі ўстановамі па пытаннях будаўніцтва лепельскага касцёла. 20 лютага 1870 г. лепельскі пробашч Старчэўскі пісаў аб касцёле, што “сцены таго ўзведзеныя і дах зроблены”[29]. У 1872 г. будаўніцтва не працягвалася. Звонку касцёл пачаў разбурацца. Вада сцякала па сценах, падмываючы падмурак[30]. Работы былі прыпыненыя фундатарам касцёла Пятром Мальчэўскім па хваробе і ў сувязі з адсутнасцю сродкаў. У будаўніцтве касцёла маглі дапамагчы парафіяне і рымска-каталіцкая калегія, але Мальчэўскі быў супраць. У 1876 г. Мальчэўскі памёр, даручыўшы свайму сыну Людвіку закончыць пачатае будаўніцтва лепельскага касцёла[31].

У 1876 г. Людвік Мальчэўскі працягнуў работы па будаўніцтве касцёла. Ён зрабіў вокны, дзверы, падлогу, атынкаваў касцёл ў сярэдзіне і пабудаваў мураваную агароджу вакол касцёла[32].

8 снежня 1876 г. храм быў асвечаны пад тытулам Св. Казіміра. Лепельскі павятовы спраўнік Семянтоўскі 10.12.1876 г. даносіў Віцебскаму губернатару: “8 снежня с.г. у г. Лепелі асвячоны новы касцёл … хрэсных хадоў па-за касцёлам не было… Адбылася паніхіда па памерлым будаўніку касцёла, памешчыку Полацкага павету Мальчэўскаму[33]”.

Аднак будаўнічыя работы не былі закончаныя: не атынкаваныя і не пабеленыя сцены будынка, не пафарбаваны дах. Лепельскі пробашч Штрон у 1878 г. звяртаўся ў кансісторыю з просьбай аб выдзяленні сродкаў на правядзенне гэтых работ. У 1881 г. паступіла просьба аб выдзяленні“ хаця 600 рублёў срэбрам на будаўніцтва плябаніяльнага дома”[34].

У 1881 г. быў гатовы плябаніяльны дом даўжынёй 8 і шырынёй 5 сажаняў, на 6 пакояў, з 2 балконамі, з калідорам, кухняй, крыты гонтамі. 8 лістапада 1881 г. асвячоны. Грошы на будаўніцтва − 300 рублёў − атрыманыя з 5-працэнтнага капітала праз духоўную калегію ад памешчыкаў лепельскай парафіі: Франца Сялявы − 100 руб. і Аўгуста Спасоўскага − 100 руб. Вышэй названы будынак каштаваў 1225 руб. У 1889 г. з Чашніцкага і Бялыніцкага касцёлаў прывезлі арганы, з асобных частак якіх майстар Шульц змайстраваў адзін арган на 12 галасоў і ўсталяваў яго ў лепельскім касцёле[35].

Вялікі рамонт праводзілі ў 1891 г. − пераважна работы, звязаныя з унутраным афармленнем касцёла. Ксёндз Карл Сліўоўскі запрасіў для гэтай мэты спецыялістаў, якія перабудавалі арган, упрыгожылі асноўны прастор двума анёламі, умацавалі на сценах 9 лямпаў і 6 кандылябраў, пры ўваходзе 3 венецыянскія ліхтары, над галоўным алтаром − лампада накладнога срэбра з крыштальным абручом. У цэнтры залы была падвешаная вялікая, бронзавая, шарападобная, парыжская жырандоля на 64 свечкі. 14 абразоў пакутаў Хрыстовых упрыгожылі 5 касцёльных алтароў. Лаўкі, уваходны драўляны ганак, працэсіяльны алтарык, п’едэстал да яго і ўсе драўляныя агароджы вакол алтароў былі перафарбаваныя пад “рымскі дуб”. Тады ж дах быў пакрыты



***Выгляд лепельскага касцёла Св. Казіміра на паштоўцы пач. XX ст.***

бляхай і перафарбаваны. На гэтыя работы кансісторыя выдзеліла 2580 рублёў і асабіста кс. Сліваўскі 600 рублёў[36].

На пачатку 1890-х гг.праведзеная чарговая рэвізія Лепельскага касцёла. Кругом касцёла была пабудавана драўляная крацістая агароджа на мураваных слупах. Меліся 2 плябаніяльныя дамы (стары і новы), стайня , свіран, павець, калодзеж, 2 хлявы, 5 крамак, пабудаваных ззаду касцёла[37]. Алтар быў асвячоны біскупам Сымонам у 1895 г. У 1907 г. быў праведзены падрабязны вопіс касцёла. Ён пабудаваны з цэглы, не атынкаваны, крыжападобны, квадратны на 8 сажаняў і 1\3 аршыны. Меў двое дзвярэй – галоўныя з фронту з драўляным на 3 прыступкі ганкам. Вокнаў вялікіх 14 і малых 4, з фронта 2 званніцы, на левай з якіх звон на 100 пудоў, дарунак Сяляваў з былога Чашніцкага касцёла, на правай 3 званы па 40 і 20 пудоў і "сігнатурка" каля пуда. Дах касцёла і вежаў пакрыты бляхай, у вялікай палове перакрыты і перафарбаваны пры апошнім рамонце касцёла ў 1891 г., а ў апошні раз перафарбаваны ў 1899 г.[38]. Змяніўся ўнутраны выгляд касцёла. Інтэр'еры храма аформленыя вельмі багата. Сцены пафарбаваныя ў розныя колеры пад мармур. Карнізы, столь, дзверы ўпрыгожаныя лепкай. Абразы выкананыя майстрамі князёўны Лубянскай, а таксама майстрамі Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Некаторыя былі копіямі сусветна вядомых твораў: "Вызваленне Св. Пятра з цямніцы" Міліры і "Св. Антоні" Мурыльё. Над уваходам у касцёл размяшчаўся арган на 12 галасоў з 3 мяхамі. Хоры, арган і лаўкі пафарбаваныя пад колер каменя. Мелася ў касцёле і фізгармонія з 8 рэгістрамі, устаноўленая пры алтары Св. Антонія[39]. Пры ўваходзе ў рызніцу на сцяне быў прымацаваны крыж з накладнога срэбра. Гэты крыж быў усталяваны на ўскрайку Лепеля ў памяць адбытай на гэтым месцы ў 1746 г. літургіі, а пазней перанесены ў касцёл[40]. У капліцы Збавіцеля знаходзіўся абраз у пасярэбранай рызе з 4 вотамі пакутуючай Божай Маці італьянскай

работы падарунак князя Сапегі. Рызніца цалкам абсталяваная ў 1841 г. Тут былі 2 шафы, вялікае люстэрка, столік са скрынкамі для свечак[41] .

З вышэй сказанага вынікае, што касцёл быў добра абсталяваны, багата ўпрыгожаны знутры, тут былі пазалочаныя мошчазахавальніцы, накладнога срэбра падсвечнікі, пры ўсіх алтарах накладнога срэбра крыжы з п‘едэсталамі, абразы ў пазалочаных рамах, гіпсавыя статуі[42] . Знадворку, як даносіў лепельскі пробашч Карповіч у Магілёўскую рымска-каталіцкую духоўную кансісторыю 3 мая 1908 г. "мае патрэбу ён у неадкладнай атынкоўцы касцёла" і "у дадзены момант за няйменнем сродкаў" знадворку ён не атынкаваны, што шкодна ўплывае на будынак касцёла. Акрамя таго, паведамляў, што "Лепельскі касцёл тэрмінова мае патрэбу ў новым аргане, таму што існуючы цяпер стары і зусім сапсаваны... і разладжаны"[43] . У 1913–1914 гг. касцёл рамантавалі яшчэ раз. Дакументы аб падрабязнасцях рамонту невядомыя.

У Лепельскай парафіі каля 1910 г. налічвалася 2976 каталікоў, 400 з іх жылі ў горадзе. Сярод іх было многа прыезжых каланістаў, якія жылі на хутарах. Дробная шляхта зямлі сваёй не мела, але арандавала ў іншых. Суцэльных каталіцкіх паселішчаў у Лепельскай парафіі не было.

Гісторыя захавала частку імёнаў каталіцкіх святароў Лепельскага касцёла. У розныя гады імі былі: кс. Вінаровіч 1836 г.; кс. Іосіф Мікоша 1833 г.; кс. Ян Вайткоўскі 1860-ыя гг. (скончыў Магілёўскую семінарыю, настаўнік Закона Божага ў Лепельскім павятовым 5-ці класным дваранскім вучылішчы, меў крыж і медаль); кс. Леанард Міхайлавіч Кучэўскі( у 1860-ыя гг. адміністратар Лепельскага касцёла, меў крыж і медаль); кс. Рамуальд Кераноўскі ( у 1861–1876 гг. дэкан Лепельскага каталіцкага дэканату, меў нагрудны залаты крыж і цёмна-бронзавы на Уладзімірскай стужцы) кс. Пётр Лабаноўскі 1866 г., вікарны; кс. Артур Карпавіч Старчэўскі пач. 1870-х гг.; кс. Жызнеўскі 1872 г.( на службе каля 40 год, у тым ліку 20 год служыў на Каўказе); кс. Штрон, пробашч Лепельскага касцёла ў 1878–1881 гг., вёў будаўніцтва плябаніі; кс. Карл Слівоўскі, у 1891 г. кіраваў работамі па афармленню ўнутранага інтэр'еру касцёла; кс. Арол у 1901–1905 гг., "адрамантаваў касцёл, ажывіў грамадскае жыццё"; кс. Павел Ксавер'евіч Карповіч, у 1905–1914 гг. дэкан Лепельскі.

У дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці ў дакументах Лепельскага павятовага выканаўчага камітэту захоўваецца журнал пасяджэнняў, дзе 20 лістапада 1922 г. разглядалася хадатайніцтва паверанага парафіяльнай рады Лепельскага касцёла Вяроўкіна аб дэмуніцыпалізацыі 11 крамаў,якія раней належалі касцёлу. Пастанавілі, грунтуючыся на шэрагу дакументаў, у хадайніцтве адмовіць. У 1924 г. у выканкам пададзены статут касцёла на зацвярджэнне[44] .

Служба ў касцёле працягвалася да 4 сакавіка 1935 г., калі ксёндз быў арыштаваны (у дзень Св. Казіміра!), а касцёл зачынены[45] . З сярэдзіны 1930-х гг. будынак касцёла стаяў зачынены і выкарыстоўвался не па прызначэнні.

Але яго лёс склаўся больш шчасліва, чым лёс праваслаўнага Праабражэнскага сабора 1844 г., які знаходзіўся ў цэнтры гораду, "псаваў" знешні выгляд і ў 1950-ыя гг. быў канчаткова разабраны. Касцёл жа стаяў закінутым бліжэй да возера, не так кідаўся ў вочы. У 1970–1980-я гг. у ім быў гараж і стаялі трансфарматарныя будкі.

---

[1] Nasze kościoły. Санкт-Петербург, 1913. s. 397.
[2] Довгялло Д.И. Лепель уездный город Витебской губернии, Витебск, 1905, с. 6
[3] Тамсама, с. 10.
[4] Н И А РБ ф. 694, воп. 1. ад. зах.43, арк.14-20 аб.
[5] Памяць: Лепельскі раён. Мн., 1999. С. 40, 42, 44.
[6] Nasze kościoły. s. 405.
[7] Памяць: Лепельскі раён. Мн., 1999, с. 42, 45.
[8] Тамсама, с. 98.
[9] Довгялло Д.И. Лепель, уездный город Витебской губернии. С.13
[10] Тамсама, с.13–14.
[11] Тамсама. с. 14.
[12] Тамсама, с. 16–17.
[13] Тамсама, с. 17–18.
[14] Тамсама, с. 19–20.
[15] Тамсама, с. 88–89.
[16] Тамсама, с. 49.
[17] Тамсама, с. 89.
[18] НДГА РБ, ф. 1781, воп.4, ад. зах.2, арк. 42–43.
[19] Довгялло Д.И., назв. твор, с. 89.
[20] Р Г И А , ф.797, воп.1, ад. зах. 27243, арк.4 аб.
[21] НДГА РБ, ф. 1430, воп.1, ад. зах.35812, арк.10.
[22] Р Г И А , ф. 218, воп.3, ад.зах. 1683, арк.9–9б.
[23] Тамсама, арк. 15–16.
[24] НДГА РБ, ф. 1430, воп.1, ад. зах. 35812, арк.10.
[25] А. М. Сементовский, Историко-статистические сведения о уездных городах витебской губернии на 1864 г. // Памятная книга Витебской губернии на 1864 г. Витебск, 1864.
[26] НДГА РБ, ф.1781, воп.4, ад. зах. 2; Р Г И А , ф. 826 воп.1, ад.зах. 63 , арк. 67,53.
[27] НДГА РБ, ф. 1430, воп.1, ад. зах.35812, арк.10.
[28] А. М. Сементовский, Историко-статистические сведения о уездных городах Витебской губернии на 1864 г. // Памятная книга Витебской губернии на 1864 г. Витебск, 1864.

[29] НДГА РБ, ф. 1781, воп.4, ад. зах.2, арк.38.
[30] НДГА РБ, ф.826, воп.1 ад.зах. 63, арк. 67.
[31] НДГА РБ, ф.826, воп.1 ад.зах. 63, арк. 67.
[32] НДГА РБ, ф. 1430 воп.1. ад. зах. 35812, арк.10.
[33] НДГА РБ, ф.1430, воп.1. ад.зах. 35812 арк. 17.
[34] Р Г И А , ф.822, воп.4 , ад. зах.18186, арк.1–3.
[35] Р Г И А , ф. 826, воп.12, ад. зах. 2914, арк. 93; НДГА РБ, ф.1781, воп. 4, ад. зах.2, арк. 63–63аб.
[36] НДГА РБ, ф.1781, воп. 26, ад. зах.1493, арк. 54–55.
[37] Р Г И А , ф. 826, воп.12, ад. зах. 2914, арк. 93.
[38] НДГА РБ, ф.1781, воп. 26, ад. зах.1493, арк.54аб.
[39] Тамсама, арк.55–56.
[40] Nasze kościoły, s. 399.
[41] НДГА РБ, ф.1781, воп. 26, ад. зах.1493, арк. 56.
[42] Тамсама, арк.55–56.
[43] НДГА РБ, воп.5, ад.зах. 284, арк.151.
[44] Госархив Витебской области, ф. 2282. воп.1 д.48, арк. 97.
[45] Барадзейка Л., Дзень св. Казіміра, “ Лепельскі край”, 19 сак. 1999 г.

## ЗВЕСТКІ АБ КАСЦЁЛАХ, ПРЫПІСНЫХ ДА ЛЕПЕЛЬСКАГА ПРЫХОДСКАГА КАСЦЁЛА СВ. КАЗІМІРА

У пачатку XX ст. Лепельскі касцёл Св. Казіміра меў некалькі капліц або прыпісных касцёлаў, часцей за ўсё ў маёнтках, дзе гаспадарамі былі католікі. Колькасць парафіянаў Лепельскага касцёла ў гэты час складала 2202 асобы. Асобных святароў у іх не было, лепельскі пробашч праводзіў там службы па святах або сямейных ці іншых мясцовых нагодах.

У мёнтку Завідзічы - мураваная капліца пабудаваная ў 1800–1805 гг. падкаморым Сваецкім. (У пач. XXст. маёнтак Завідзічы – уласнасць Кусцінскіх).

У маёнтку Ворань (у XIXст. уладанне Сяляваў) - мураваная капліца, пабудаваная ў 1772–1801 гг., мяркуецца, на сродкі мясцовага землеўладальніка Сялявы. У 1841 г. яе рамантаваў Сымон Сялява.

У маёнтку Межыца, непадалёк ад вёскі Гарадчэвічы, была драўляная капліца, невядома калі пабудаваная. Аб ёй ёсць звесткі, што ў 1909г. была адрамантаваная на сродкі Людвіка Міладаноўскага і асвечаная кс. Паўлам Карповічам.

Упамінаецца касцёл у маёнтку Луцікі недалёка ад Лепеля, прыпісны да

Лепельскага касцёла, пабудаваны ў 1802 г.

У маёнтку Пышна (уладанне Шчытоў) у 1780 г. пабудаваны мураваны касцёл камергерам каралеўскага двара Кашчыцам (або памешчыкам Шчытам). У цяперашні час ніводны з названых прыпісных касцёлаў не захаваўся.

Вёскі Весялова, Стайск Валосавіцкага сельсавета ў пач. XX ст. уваходзілі ў склад Барысаўскага павета Мінскай губерні. У гэтых вёсках у пач. XX ст. пасяліліся перасяленцы – палякі з розных губерній Польшчы. Вядома, што да II Сусветнай вайны ў в. Весялова была капліца. У вайну яе перавезлі ў в. Новыя Валосавічы. На яе месцы за адзін дзень пабудавалі каплічку, каб не пакутавала ў вайну вёска. Ёсць маленькая каплічка каля Весялова і цяпер.

## КАСЦЁЛ СВ. КАЗІМІРА СЁННЯ

У 1980-х гг. адбываюцца змены ў грамадскім і эканамічным жыцці СССР. У верасні 1990 г. лепельскую каталіцкую парафію ўзначаліў неардынарны чалавек – ксёндз Мечыслаў Мікалаевіч Янчышын з Польшчы. Ён пачаў рамонт будынку касцёла Св. Казіміра. З 1993 г. тут ужо ішло набажэнства. У 1995 г. касцёл быў нанова асвячоны. З 13 мая 2000 г. у касцёле працаваў кс. Ян Пугачоў. Восенню 2001 г. яго змяніў кс. Гэнрык Чэслававіч Дамашка, выпускнік Гарадзенскай семінарыі.

Унутраны і знешні выгляд касцёла змяніўся. Будынак касцёла звонку атынкаваны і пабелены. Змяніўся выгляд вежаў. На іх няма званоў. У касцёле двое дзвярэй. Галоўныя дзверы вядуць у касцёл, а бакавыя ў закрыстыю. Касцёл унутры атынкаваны і пабелены. Старыя роспісы на сценах забеленыя. У галоўным алтары над табернакулюмам у самай гары знаходзіцца крыж, ніжэй абраз Св.Казіміра, пад ім вялікі абраз "Вучні з Эмаусу"(3 на 2 м.).Па баках у прэзбітэрыўме знаходзяцца два вітражы з выявамі анёлаў

Злева ад прэзбітэрыўма – вялікі абраз Міласэрнага Езуса, пад ім арганы, ахвяраваныя каталікамі з Нямеччыны.

У левай наве касцёла таксама знаходзіцца капліца М.Б.Вострабрамскай- абраз ахвяраваны амерыканскай польскай дыяспарай. З правага боку ад прэзбітэрыўму ёсць фрэска " Хрост Пана Езуса ў Ярдане". Дарога крыжовая лепельскага касцёла вельмі адметная, бо мае 15 стацыяў (рэльефаў, апошняя стацыя прадстаўляе Уваскрашэнне Пана Езуса). Заслугоўваюць увагі таксама і лаўкі, на якіх выразаны па дрэве сцэны са Старога і Новага Тэстамэнтаў Усе абразы і разьбу сучаснага касцёлу выканалі лепельскія мастакі: Іван Будзіч, Аляксандр Саўчанка, Ігар Будрэвіч, Сяргей Васіленка.

# З УСПАМІНАЎ ЛЕПЕЛЬСКІХ ПАРАФІЯНАЎ

*(занатавана ад Ніны Станіславаўны Гудзёнак)*

Вось так пачынаў адраджацца наш касцёл святога Казіміра. Людзі веруючыя пісалі ўладам аб вяртанні нашага касцёла. І вось аднойчы па запрашэнні веруючых да нас у Лепель прыехаў ксёндз Уладыслаў Блін, прыняла яго Аніковіч Ганна, а Гудзёнак Ніна абышла амаль увесь Лепель, дзе ведала якіх католікаў усім паведаміла. Сабралося нас вернікаў не надта шмат, але прыйшлі. Кс. Уладыслаў спавядаў нас, потым адправіў Імшу, колькі было радасці да слёз, гэтага нельга апісаць. Потым паабедалі, і кс. Уладыслаў сказаў , што хацеў бы паглядзець касцёл св. Казіміра, і тады з ім пайшлі Гудзёнак Віктар і Агапонька Руслан унук Анікавіч Ганны , яму тады было 10 год. Што яны там убачылі! На вярху касцёла раслі бярозы, унутры разбітыя машыны, усякага многа іржавага жалеза, celoзнага хламу, абмёрла сэрца − ўва штоператварылі Святыню! Але кс. Уладыслаў, цяпер біскуп, сказаў: “Не хвалюйцеся і не перажывайце! З Божай дапамогай усё адбудуем”, − так яно і сталася.

Пазней да нас прыехаў кс. Станіслаў з Польшчы і перакладчыца Ядзвіга з Вільні. І тады Станіслаў Ермаковіч ды іншыя пайшлі выпрошваць ад уладаў вяртанне нам нашага касцёла. Народ верны чакаў адказу каля касцёлу, маліўся, а тыя прасілі са слязьмі, угаворвалі і ўрэшце касцёл аддалі і дазволілі ўсё з яго выносіць. Мы ўсе бегалі бягом, і дарослыя і дзеці, а было нас тады чалавек 20 і былі з намі клерыкі з Польшчы, Збігнеў і Анджэй, і яны дапамагалі нам і кс.Станіслаў і перакладчыца. Потым прыйшлі рабочыя, што працавалі тут у электрасецях і кажуць: “Ну і католікі, што тут нарабілі, але і добра − нас хоць перавядуць у іншае месца, бо холадна тут было працаваць”. Потым кс. Станіслаў адправіў Імшу, і ўсе госці паехалі дахаты. Яшчэ да нас прыязждаў кс. Уладыслаў, праводзіў Службу і казаў пра будаўніцтва, а мы адказвалі, што без пастаяннага, свайго ксяндза, не справімся.

Урэшце да нас даслалі кс. Мечыслава. Мы яго сустракалі з кветкамі, чакалі на вакзале, калі прыйдзе аўтобус. З аўтобуса ён сам да нас падышоў − мы ж яго не ведалі, а ён здагадаўся, што з кветкамі гэта яго сустракаюць. Унук Марыі Жмакінай забраў яго на машыне, таму што ён адразу ў іх пасяліўся, пакуль адбудаваў сабе кватэру на плябаніі, дзе цяпер жывуць сёстры. На другі дзень пайшлі некалькі чалавек з ксяндзом пад касцёл. Павыразалі ўсе бярозы, што раслі на касцёле, каля яго таксама ўсё пазарастала хмызняком, дрэвамі так, што і касцёла не было бачна, убіралі ўсё дні два ці тры, вывозіў усё на трактарчыку Станіслаў. Потым на зіму накрывалі касцёл рубероідам, які купіла Браніслава Кароцкая. Вясной ужо ўзяліся за рамонт. Выдзелілі нам лес на дах, яго спілавалі і ўзяліся за працу: Ермаковіч Станіслаў, Гудзёнак Віктар, Лявіцкі Франц, Ермаковічы Антон і Павел, Кашко Казімір з Весялова.

Як прыехаў кс. Мечыслаў, справа у нас пайшла, ён не толькі кіраваў усім, а і сам рабіў не менш за нас як будаўнік, хаця ён і ксёндз!

Таксама збіралі грошы на будаўніцтва па горадзе, было па-рознаму, не ўсе нас разумелі, хадзілі ў чатыры пары: Гудзёнак Ніна, Яхімовіч Рэгіна, Ермаковіч Эмілія, Аніковіч Ганна, Багдзеева Станіслава, Кутырла Марыя, Земко Юзэфа, Спірыдовіч Ганна. Ездзілі па грошы ў іншыя парафіі: у Дзеркаўшчыну і Глыбокае там было прасцей, людзі дапамагалі, хто колькі мог. Шмат дапамаглі з Весялова і грашыма і працай.

Тады ж да нас прыязджаў Казімір Сьвёнтак, ён тады быў біскупам, а зараз ён у нас кардынал. З ім быў клерык Чэслаў, зараз ён ксяндзом у Воршы. Мы касцёл прыбралі, бярозкамі і вялікімі кветкамі заставілі сцены бо яны былі ўсе чорныя ад мазуту. Біскуп праводзіў Імшу, шмат гаварыў пра будаўніцтва. навучаў нас, дах быў дзіравы, пайшоў дождж, у каго былі парасоны, парасчынялі, а хто стаў пад сцены, дзе не цякло. Шмат працы парабіў муляр Цэзары Яхімовіч. Залажыў чацвёра дзвярэй папрабіваных і адно вялікае вакно, ён жа выклаў вежы. Шмат працавалі Кулевіч Валянціна, Ладняк Лёля, Тарасевіч Зоя, Зінкевіч Галіна, гэтыя былі як штатныя, ўсе хацелі хутчэй увайсці ў касцёл, і вось ужо дзесяць год, як мы молімся ў ім. І зараз калі пра што папросіць кс. Гэнрык ці сястра Эва, мы ніколі не адмаўляемся.

# НАШЫ КАСЦЁЛЫ

*Магілёўская архідыяцэзія.*
*Лепельскі дэканат.*

*Пад рэдакцыяй кс. Язафата ЖЫСКАРА (1914).*

## Лепель

На паўднёвым беразе вялікага Лепельскага возера, паміж рэчкамі Улай ды Эсай ляжыць места Лепель. Калісьці, дзякуючы свайму знаходжанню па Бярэзінскай воднай сістэме, горад быў з добрым гандлем. Яшчэ цяпер засталіся шлюзы і грэблі каналу, які калісьці меў вялікае значэнне, і праз які кіраваўся ўвесь гандаль Поўначы з Захадам. Але цяпер варункі змяніліся: чыгунка, даючы выгодную і танную камунікацыю, забіла ўсе іншыя спосабы перавозкі тавару і змяніла істотна кірунак гандлю. Падобнае значэнне мела пабудова чыгункі і для Лепеля – месца страціла сваё гандлёвае значэнне разам з заняпадам Бярэзінскага каналу.

У XV ст. Лепель належаў Вялікім князям літоўскім. У 1439 г. намаганнямі ксяндза Кухарскага, сын Вялікага Князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча, Міхаіл перадае Лепель віцебскаму касцёлу, кароль Жыгімонт Стары гэты дар зацвердзіў і павялічыў у 1541 г. і са згоды Папы Рымскага далучыў да Віленскай катэдры. Пасля захопу Полацка маскоўскім войскам у 1563 г. віленская капітула, ня ў стане бараніць маёмасць ад сталых нападаў суседняга Маскоўскага княства, аддала Лепель у валоданне Жыгімонту Аўгусту, з умовай, што калі кароль захоча назаўсёды пакінуць гэтую маёмасць сабе, дык мусіць даць капітуле іншую маёмасць той самай вартасці. Кароль не трымаўся тых дамоўленасцяў і аддаў тую маёмасць у пажыццёвае карыстанне Юрыю Зяновічу, смаленскаму кашталяну, а па яго смерці полацкаму ваяводзе Мікалаю Дарагастайскаму. І толькі кароль Стэфан Баторы, вызваляючы Полацк, вярнуў маёмасць капітуле. Аднак жа цяжка было капітуле бараніць тую маёмасць, а сталыя непаразуменні і напады непрыяцельскіх войскаў змусілі яе ўрэшце ў 1586 г. прадаць лепельскую маёмасць Льву Сапегу. Гэта быў адзін з найвялікшых касцёльных дабрачынцаў. Не адзін касцёл ён пабудаваў, не адзін кляштар абдарыў па ўсёй Літве, таксама і Лепель аддаў у 1609 г. віленскім законніцам – бернардынкам, якія грамадзіліся пры касцёле Св. Міхала.

Пасля далучэння Беларусі да Расеі ў 1772 г. Лепель застаўся ў Літве, бо мяжу ўтварала рака Дзвіна, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Лепель далучаецца да Расеі; у 1802 г. ён робіцца павятовым местам. У часе

французкай вайны 1812 г. Лепель панёс вялікія страты, бо праходзячыя войскі спалілі места. Сёння Лепель страціў сваё стратэгічнае і гандлёвае значэнне і ўяўляе з сябе невялічкае ўбогае, павятовае мястэчка. З 7 тысяч жыхароў Лепеля прышлых палову, або 4 тыс., складаюць габрэі, якія трымаюць увесь гандаль. Хаця так званая Бярэзінская водная сістэма страціла сваё выключнае значэнне, аднак будынкі і абсталяванне на ёй закансэрваваныя ўладамі – і існуе персанал абслугі на чале з інжынерамі. Галоўнае кіраўніцтва знаходзіцца ў Лепелі. Калісьці тут была тэхнічная школа, дзе пад кіраўніцтвам інжынераў рыхтавалі тэхнічны персанал. У Лепелі пры дырэкцыі каналу працаваў з 1833 па 1839 гг. калега і сябар Адама Міцкевіча, Ян Чачот[1].



*Ян Чачот*

Глеба ў Лепельскім павеце досыць добрая, шмат азёраў. Калісьці тут вельмі актыўна працякала каталіцкае жыццё, доказам чаго ёсць шматлікія мураваныя касцёлы, некаторыя з іх цудоўнай архітэктуры. Гэта сведчыць аб патрыятызме і заможнасці грамадзянскай супольнасці даўніх часоў. Ні ў якім іншым павеце Белай Русі[2] не сустрэнем столькі і такіх прыгожых касцёлаў.

Лепельская парафія налічвае 2976 каталікоў, 400 з якіх жыве ў горадзе. Ёсць парафіяльныя мясцовасці аж за 70 вёрст ад касцёла. Каталіцкі люд складаецца з самых розных сацыяльных супольнасцяў; шмат людзей прышлых, каланістаў, якія ў большасці вядуць фальваркавую гаспадарку (хутары). Што тычыцца дробнай шляхты, якой тут шмат, па большасці прыпісалася яна да мяшчанства, зямлёю не валодае, але бярэ яе ў арэнду. Каталікі раскіданыя сярод чужынцаў, але найчасцей збіраюцца разам, па 7–10 хатаў, і толькі тады маюць магчымасць хаця трохі дапільноўваць сваёй веры і нацыянальнай прыналежнасці.

Усё астатняе чакае зменаў да лепшага. Нават шляхта дрэнна размаўляе на польскай мове, а траціна дзяцей ледзь можа чытаць; і таму цяжка весці катэхізацыю. Люд наогул пабожны, прывязаны да касцёла, а ў часе абвяшчэння маніфесту аб свабодзе веравызнання ў 1904 г., сотні людзей вярнуліся да каталіцызму. Досыць вялікая лічба вяскоўцаў-каталікоў тлумачыцца тым, што калі ўніяты маглі пераходзіць на лацінскі абрад, некаторыя вёскі скарысталіся з такога права. Немалую заслугу пад тым поглядам маюць некаторыя людзі добрай веры[3]. Люд пераважна займаецца земляробствам, а грамадства добра трымаецца зямлі і больш камунікабельнае, як у іншых паветах. Досыць актыўнае ў Лепелі сельскагаспадарчае таварыства.

Вялікія заслугі перад парафіяй мае ксёндз Арол, які тут чатыры гады быў пастырам. Ён аднавіў касцёл, абуджаў грамадскае жыццё, узмацняў сярод людзей веру. Ня менш вартага ён мае па сабе наступніка ў асобе ксяндза Карповіча, які кіруе парафіяй ад 1905 г.

Прыгожы мураваны касцёл стаіць ў цэнтры гораду і выгляд яго вельмі імпануе. Касцёл у імя Св. Казіміра ўфундаваны Львом Сапегам, у 1650 г. быў багата абдараваны. Святыня два разы гарэла – у 1770 і 1833 гг. Пасля апошняга выпадку набажэнствы былі перанесеныя на плябанію. У 1857 г. быў закладзены кутні камень пад новы мураваны касцёл, пабудаваны і высвячаны ў 1876 г. Кошты будовы пакрыў грамадзянін Мальчэўскі. Касцёл і алтары ў раманскім стылі, вельмі густоўныя. У галоўным алтары знаходзяцца фігуры святых Пятра і Паўла высокага мастацкага ўзроўню. Прыгожыя абразы: "Узвышэнне крыжа" і Святога Казіміра. Раней за горадам стаяў місійны крыж у памяць аб адпраўленых місіях 1746 г. Зараз той крыж знаходзіцца ў касцёле на сцяне. Усё у касцёле густоўнае, ва ўсім бачна дбайных гаспадароў. Апошнія два пробашчы шмат зрабілі для святыні. Не занядбае таксама святыні і кс. Карповіч. Чысціня ў касцёле і майстэрства, з якім рабіўся рамонт, звяртаюць на сябе ўвагу вернікаў. Капліцы ёсць у Завідзічах, мураваная ў 1801 г., у Ворані (мураваная коштам грамадзяніна Сялявы), у Пышне (пабудаваная коштам Шчытаў),у Меджыцы і Люцішчы на могілках, адноўленая коштам Міладоўскага ў 1909 г.

## Загацце[4]

Гэта добрая вёска і знаходзіцца яна ў вельмі прыгожым месцы. Калісьці тут была летняя рэзыдэнцыя айцоў-езуітаў і, бачна, умелі айцы выбраць сабе адпаведную мясцовасць. Сапраўдная беларуская Швайцарыя: шмат азёраў, мясцовасць гарыстая, дужа лясоў – усё лучыцца ў цудоўны краявід.

Пры касцёле[5] ёсць толькі вёска, але выключна каталіцкая. Тутэйшы маёнтак належаў у 1691 г. Эве Саламярэцкай, потым айцам-езуітам, а цяпер Мікульскім і Сялявам. Парафія налічвае 2300 верных, але вельмі раскіданая. Пробашч мусіць выязджаць за 35 вёрст. Асабліва павялічыўся абшар парафіі ад моманту закрыцця касцёла ў Палюдовічах.

Касцёл у Загацці драўляны, вельмі стары, але добра дагледжаны, унутры тры алтары. У вялікім рэзаная з дрэва старажытная статуя Пана Езуса, вельмі мясцовымі людзьмі шанаваная. З пробашчаў дабром успамінае люд ксяндза-каноніка Фларыяна Юшкевіча, які быў тут 15 гадоў. Сумаваў ён, што не можа касцёл павялічыць, але дарабіў зашклёны ганак пры вялікіх дзвярах, тым самым даючы магчымасць людзям слухаць святой Імшы. У пазнейшыя часы былі пробашчамі: кс. Аблоцкі, кс. Гінтаўт, кс. Окала-Кулак, кс. Шукеля,


*Былы касцёл у Загацці.*

кс. Кібергштыс, а цяпер кс. Казюнас. Парафія мае тут асаблівы характар. Народ мала займаецца земляробствам, бо глеба неадпаведная – балоты і лясы; утрыманне даюць яму пераважна лугі. Багатыя лясы прычыніліся да развіцця ляснога промыслу. Ёсць капліцы у Начы, Бездзядовічах, Сворашчыне, Быкаўшчыне, уладанні Козёлаў-Паклёўскіх[6], Варонаўшчыне, Канаўшчыне, Сталожыне[7]. Найвялікшае значэнне для парафіі мае Сталожын. Знаходзячыся за 26 вёрст ад парафіяльнага касцёлу, збірае ён люд з усіх ваколіцаў. Тут жыве і гуртуецца большая частка парафіі, тым больш, што цудоўны абраз Маці Божай шануецца людам далёка навокал. Дэнацыяналізацыя насельніцтва тут меншая, бо блізка мяжа Віленскай губерні, акалічнасць, якая звычайна мае вялікая значэнне.

У палацы Уладзіслава і Ванды (з роду Стаўроўскіх) Забелаў ад старадаўніх часоў ёсць каплічка. Да сёння там захоўваецца абраз Маці Божай Чэнстахоўскай у алтары. Прадзед сучаснага ўладальніка, Язэп Забела аб'язджаў свае ўладанні, возячы з сабою ў карэце вялікі, аздоблены камянямі, абраз. Арэхава[8] калісь належала князям Саламярэцкім, якія прадалі маёнтак Шчытам, а да графаў Забелаў ён перайшоў як пасаг пры шлюбе адной са Шчытоўнаў з Забелам. Сучасныя ўладальнікі Станіслаў і Ванда са Стахоўскіх-Забелаў, вельмі богабойныя, дбаюць не толькі пра каплічку, але і з'яўляюцца найлепшымі парафіянамі загацкага касцёла.

## Заскаркі[9]

Зноў толькі маленькая вёска. Над рэчкай Ушачкай стаіць касцёл, два млыны і 12 хатак. Тут жа знаходзіцца так званая "шведская гара". Ёсць паданне, што тут была вялікая бітва са шведамі, а гара была ім месцам засады. У парафіі 1604 каталікі, раскіданыя сярод чужакоў; часамі яны маюць 24 вярсты да касцёлу. Палову складаюць вяскоўцы, другую палову – шляхта. На жаль, ва ўсёй парафіі ёсць толькі тры вёскі цалкам каталіцкія. Людзі тут небагатыя, бо зямля пясчаная, неспрыяльная для ўраблення; калі б не пабочныя заробкі і

добры збыт прадуктаў у Полацку, тутэйшыя людзі не ўтрымаліся б. Шляхта трымае зямлю пераважна дваравую, і таму неаселая, але заўсёды вандруючая ў пошуках выгаднейшых варункаў ды іншай зямлі. Апроч беларусаў, сустрэнем невялікія калоніі літоўцаў, якія ўжо не мяшаныя, не так абыякавыя да касцёла, пабожнейшыя. На жаль, блізкае суседства гораду дрэнна ўздзейнічае на нашага мужыка, згаршэнні тут звычайна большыя, чым у іншых парафіях.

Касцёл у Заскарках мураваны з дзвюма высокімі вежамі. У вялікім алтары рэзаная з дрэва статуя, вядомая цудамі Пана Езуса Назарэйскага. У касцёле тры алтары; касцёл узведзены ў імя Найсвяцейшай Тройцы, мураваны ў 1792 г. Траянам Корсакам. Плябанія старая, драўляная. Доўгі час пробашчаваў тут кс. Більскі, потым 5 гадоў кс. Ібянскі. Той другі застаў касцёл у стане вартым жалю; усё вымагала рамонту. За яго часамі былі агароджаныя могілкі, рэстаўраваны касцёл звонку і ўнутры, і шмат спраўлена начынне касцельнага. Апошнія тры гады пробашчам тут кс. Самулевіч; за гэты час спраўлены новы арган і пабудаваны алтар.



***Былы касцёл у Заскарках.***

Парафія тая здаўна служыла рэзідэнцыяй састарэлым капланам. Належыць да яе і капліца ў мястэчку Варонічы[10]. Мястэчка і маёнткі той самай назвы ляжаць над рэчкай Ушачай. Вялікія тыя маёнткі належаць Лісоўскім. Гэтая малая мясцовасць мела калісьці стратэгічнае значэнне, таму прыгадвалася ў 1563 г. сярод прыгарадаў Полацкіх, захопленых Іванам Грозным (Жахлівым). У 1579 г. Стэфан Баторы адваяваў Варонічы ад Масквы. Вёска налічвае ледзьве некалькі соцень жыхароў, пераважна габрэяў. Каталіцкі касцёл тут быў спалены, а на яго падмурках пабудаваная праваслаўная царква. На камянях тым не менш захаваліся лацінскія надпісы. Новая капліца была пабудаваная ў 1880 г.

Да парафіі Заскаркі належыць таксама капліца ў Красным Рагу і Веліжаўцы.

## Каменнае-Губін[11]

Зрэшты, даўней парафія называлася папросту Камень і парафіяльны касцёл быў у Камені, але на жаль, касцёл той страцілі і маем толькі малую каплічку – парафія перанесеная да славутай пафранцішканскай святыні ў Губіне. Невялічкая мясцовасць калісьці была ажыўленая з прычыны шматлікіх наведвальнікаў, ці то маючых матэрыяльны інтарэс, ці то дзеля набажэнства, бо кляштар айцоў-францішканаў быў вельмі актыўны і прыцягваў да сябе шмат людзей. Сёння шматлікіх манахаў замяшчае адзіны ксёндз. Парафія раскінулася вельмі шырока, сягаючы ў адзін бок да 30 вёрст, тым болей, што да яе далучана некалькі скасаваных парафій: Чашнікі, Кублічы, Бела-Камень. Налічвае яна 1815 верных. Як і ва ўсім павеце, бачым у парафіі шмат азёраў, мясцовасць гарыстая, глеба нядрэнная, доказам чаго была даўней заможнасць абывацеляў. Зараз жа ўсё часцей маёнткі занепадаюць. Сядзелі тут калісьці заможныя роды Рэутаў, Корсакаў, якім каралі даравалі вялікія ўладанні, сёння ад іх тут бачым толькі руіны. Тое старажытнае, калісьці пышнае Паазёр'е сёння свеціцца пусткамі.

Парафіяне – пераважна дробная шляхта на арэндзе, зусім не старая, не аселая; уласнікаў мала і тыя параскіданыя. У Губінскай парафіі няма цалкам каталіцкіх мясцінаў, усё перамяшалася. Нейкім чынам атабарыўся ў Губіне адзін крамнік каталік, што вельмі рэдка бывае у тых краях. Трохі больш каталікоў жыве пад Чашнікам, дзе ім дае заробак паперня пана Сялявы. І

***Касцёл у Губіне каля 1914 г.***



гэтая лічба каталікоў змяншаецца, бо вельмі папулярная ёсць эміграцыя ў Амерыку. Ёсьць сярод парафіянаў трохі літоўцаў, якія скарысталіся з распродажу маёнтку і набылі сабе па кавалку зямлі.

Як прыгадвалі, раней была парафія ў Камені, але прыгожы касцёл замкнуты, а ў якасці парафіяльнага касцёлу прызначаны стары драўляны касцёлік на могілках. Была ідэя пабудаваць у Камені новы касцёл, нават заклалі падмурак, але намеры тыя занядбалі, а на могілках замест каменіцы засталіся толькі падмуркі. Камень меў толькі капліцу, пры якой жылі ксяндзы-місіянеры, але ў 1796 г. пабудаваны драўляны касцёл у імя Св. Казіміра і ўтвораная парафія.



Фасад касцёлу ў Губіне.

У малым мястэчку Губін, акружаным некалькімі габрэйскімі дамкамі, узносіцца ўгару вялікі мураваны касцёл, пабудаваны ў 1714 г. полацкім стольнікам Янам Пакашам, у гонар Св. Антонія[12]. Дзякуючы таму ж Пакашу, пры касцёле ёсць двухпавярховы кляштар айцоў францішканаў.

Касцёл пабудаваны ў форме крыжа. У ім тры алтары, галоўны з іх у імя Марыі Панны, па-мастацку выразаны з дрэва, звяртае на сябе ўвагу прыгожы бочны алтар Найсвяцейшай Панны Марыі Вострабрамскай. У часы рэлігійнай вольнасці, маючы надзею атрымання дазволу на адкрыццё школы, парафіяне пабудавалі вельмі неблагі дом пад парафіяльную школу, але на жаль, той будынак дагэтуль стаіць пусты.

З пробашчаў прыгадаем толькі кс. Нарвайшу, які кіраваў парафіяй аж 45 год і кс. Бэма. Апошнія 12 год кіруе парафіяй кс.Зарэмба, які шмат зрабіў для аднаўлення касцёла. Пры добра захаванай плябаніі ацалела яшчэ бібліятэка і багаты архіў айцоў францішканаў. Есць капліцы ў Камені, Іваньску[13], Павуллі[14] па вызваннем Імя Езуса, пабудаваная Язэпам Шчытам у 1789 г. у Сушы[15].

## Касцёлік-філія ў Белым[16]

Белае, калісьці маёнтак Неміровічаў-Шчытаў, сядзіба таго роду, які сёння згасае, прыйшоў да роду Корсакаў праз шлюб Марыі Шчытоўны з Эразмам Корсакам у XIX ст., а потым як пасаг атрымала яго святой памяці Юзэфа з Корсакаў Станіслава Забелаўна, пасля якой Белае перайшло да яе сына графа Юзэфа Забелы. Драўляны касцёлік стаіць у атачэнні гаспадарчай забудовы, каля жылога дому, зацененых прыгожымі ялінамі. Дата яго ўзнікнення невядомая, але ў кожным разе вельмі даўняя (найстарэйшы запіс, захаваны ў сямейным архіве датаваны 13.03.1841 № 293, выдадзены арцыбіскупам Ігнацыям Паўлоўскім лепельскаму маршалку Шчыту). Каля маёнтку стаіць радавы склеп, а ў ім помнік с.п. Мікалаю Шчыту, памерламу ў 1563 г., які атрымаў Белае як каралеўскі падарунак. Недалёка ў Неміраве, месцы, названым у гонар заснавальніка, ёсць былая уніяцкая царква, сёння адабраная праваслаўнымі. У Бельскай капліцы захаваўся палявы столік вялікага гетмана кароннага Стэфана Чарнецкага.

## Бешанковічы

На стромкім левым беразе Дзвіны маляўніча раскінулася мястэчка Бешанковічы. Мясцовасць жвавая і гандлёвая дзякуючы таму, што на Дзвіне тут ідзе сплаў. Налічвае яна да 5 000 жыхароў, з якіх 4 000 габрэі. Ужо ў першай палове XV ст. быў гэта важны пункт. Кароль Казімір будуе ў Бешанковічах царкву Св. Іллі. У XVII ст. бешанковіцкія землі належаць Сапегам, адзін з якіх, Казімір-Лявон, дабіваецца для свайго мястэчка магдэбургскага права, а ў 1650 г. будуе каталіцкі касцёл. З канца XVII і пачатку XVIII стст. Бешанковічы належаць Агінскаму. 12 ліпеня 1812 г. у Бешанковічы прыбыў Напалеон і пераправіў свае войскі праз Дзвіну. Дасёння яшчэ захоўваюцца як напамін пра французаў рэшткі валоў і рвоў. Мястэчка выглядае як горад, мае брукаваныя вуліцы, у цэнтры мураваны рынак. Жыхары пераважна займаюцца рамёствамі, а габрэі гандлем. У Бешанковічах каля 500 дамоў.



*Касцёл у Бешанковічах каля 1914 г.*

Бешанковіцкая парафія досыць разлеглая; у адным кірунку 30 вёрст. Сярод парафіянаў пераважна шляхта, ёсць троху работнікаў на фабрыцы і зусім мала вяскоўцаў. Няма тут цалкам каталіцкіх вёсак, якія моцна прычыняюцца да падтрымання веры сярод людзей. Парафіяне параскіданыя сярод чужынцаў: двароў абшарніцкіх 15. Значна павялічылася лічба вернікаў, дзякуючы паперні Валадковіча[17], дзе працуе шмат работнікаў-каталікоў. Агульная лічба ўсіх прафіянаў – 1300. Драўляны касцёл Св. Казіміра каралевіча і Св. Рафаіла Арханёла з дзвюма вежамі пабудаваны ў 1876 годзе на грошы кс. Керснаўскага, на месцы старога драўлянага касцёла, пабудаванага кс. Ляскоўскім. 20 год тут быў пастарам кс. Багдановіч, пасля 5 год кс. Васілевіч, а зараз кс. Станіслаў Цыбулевіч. Кс. Цыбулевіч шмат зрабіў для касцёла.



***Панарама Чашнікаў у 1876 г. на гравюры Напалеона Орды. Ў цэнтры — былы дамініканскі касцёл, з 1868 г. — праваслаўная царква.***

Касцёл хоць і драўляны, але добра дагледжаны. Стаіць у цэнтры мястэчка. Мае чатыры алтары. Вылучаюцца абразы: Пана Езуса ўкрыжаванага, Найсвяцейшай Марыі Панны і Св. Антонія. Абразы старажытныя і

***Касцёл у наваколльі Бешанковіч. Ліпень 1812 г.***



не без мастацкай значнасці. Ёсць капліцы ў Вадапоях пана Спасоўскага і араторыюм у Бачэйкаве пана Цеханавецкага[18] .

Далучаная да Бешанковічаў скасаваная парафія ў Чашніках. У Чашніках быў прыгожы дамініканскі касцёл[19] , удала размешчаны на ўзвышшы, уфундаваны ў 1674 г. Дамінікам Служкам, літоўскім харунжым[20] . Чашнікі – гэта мястэчка на рэчцы Улы. Раней Чашнікі вялі ажыўлены гандаль з Рыгай. Зараз маюць ледзьве 5 000 жыхароў; народ займаецца земляробствам, а ўвесь гандаль узялі ў свае рукі габрэі. Быў тут кляштар і касцёл айцоў дамініканаў з фігурай Пана Езуса, далёка вядомай сваймі цудамі. Прыгожа аздобленая святыня, узведзеная ў канцы XVIIIст. мясцовым прыёрам[21] , была адной з найпрыгажэйшых у Белай Русі. Пасля выгнання айцоў-дамініканаў у 1832 г. парафію абслугоўвалі дыяцэзіяльныя ксяндзы, у 1868 г. касцёл перарабілі ў царкву. Людзі вельмі шанавалі святыню, і таму яе забранне было вельмі балючым, і той боль людзі да сёння ячшэ не паражылі. Ваколіцы Чашнікаў маюць вельмі ўрадлівую глебу, але мала тут лясоў. Акрамя рэчкі Улы ёсць некалькі азёраў. Месцяцца тут досыць значныя млыны і крупярні. Чашнікі сёння ўласнасць Валадковічаў. Мясцовасць вядомая з прычыны некалькіх бітваў. Тут, на Іваньскіх палях, у 1564 г. загінуў ваявода маскоўскіх войскаў Шуйскі[22] , і таксама была крывавая бітва 1812 г. паміж князем Вітгенштэйнам і французскім маршалам Віктарам[23] .

***Былы касцёл Св. Лукі ў Чашніках, пазней праваслаўная царква, каля 1914 г.***



## Селішча[24]



***Руіны былога касцёлу бернардынаў (Св. Веранікі) ў Селішчы. 1970-я гг.***

Малое мястэчка, прыгожа раскінутае пры вялікім возеры той самай назвы ў вусце рэчкі Янаўкі. Калісьці гэтыя землі былі ленныя, якія складалі ў 1680 г. уласнасць Корсакаў, потым Францкевічаў і Сяляваў. У 1743 г. купляе Селішча Міхал Лявіцкі. Потым землі гэтыя праз спадчыну вяртаюцца да Сяляваў, а ў рэшце да Шурынаў. У 1726 г. падсудак полацкі Язафат Антоні Сялява і ягоная жонка Элеанора з роду Коцелаў фундуюць мураваны касцёл Св. Веранікі і запрашаюць ксяндзоў бернардынаў[25] .

У мястэчку жывуць пераважна каталікі. Парафія не разлеглая, бо калі нанова была ўтвораная парафія Ўшачы, дык адарвала добры кавалак ад яе. Налічвае 2100 асобаў, з іх 10 двароў абшарніцкіх, шмат шляхты і сялянаў, але, на жаль, усе яны памяшаныя сярод чужынцаў. Большасць парафіянаў займаецца земляробствам, але не малая частка сыходзіць улетку на заробкі. Шмат тут муляроў, страхароў (асабліва ў Кублічах). У Селішчах жывуць пераважна муляры. Многія сведчаць, ды і ў літаратуры прыгадваецца, што селішчацкія парафіяне вельмі гарлівыя і прывязаныя да касцёла. Раней тут быў звычай хадзіць па дамах са жлобкамі падчас Божага Нараджэння. Людзі з ахвотай спяваюць пабожныя спевы і прытым нядрэнна. Усе ўмеюць чытаць па-польску. Першым пробашчам пасля айцоў-бернардынаў быў кс. Пісарскі, пасля 22 год быў кс. Більскі, кс. Язэп Стэцкевіч, кс. Рыла, кс. Яновіч, а апошнія 15 гадоў кс. Валентыновіч. Дзейны і добры гаспадар, шмат ён зрабіў для Селішчаў. Ён зрабіў рамонт вялікай плябаніі, пафарбаваў унутры і звонку ўвесь агромны касцёл. З добрым пачуццём густу была зробленая ўся рэстаўрацыя, так што не быў зменены стыль і характар касцёла.



***Жылы корпус былога кляштару бернардынаў. 1970-я гг. Кляштар зачынены яшчэ ў 1832 г., пасля паўстання 1830—31 гг.***

Святыня ў Селішчах вельмі прыгожая. З усіх старадаўніх цудоўных гмахаў, былых кляштараў, хіба адна яна толькі і захавалася. Касцёл узносіцца над сваім двухпавярховым кляштарам, здалёк вабіць і ўражвае сваёй грамадаю. Дзве зграбныя вежы страляюць ў неба. Касцёл вельмі высокі, а алтары, якіх пяць, вызначаюцца прыгожымі абразамі. Асабліва прыгожы алтар Св. Антонія з анёлам, які топча шатана, ўгары. Над галоўным алтаром вісіць цудоўны абраз Маці Божай, перавезены з кубліцкага касцёла. Перад Маці Божай партрэт укленчаных фундатараў Кублічаў. Увесь абраз пакрыты дарагімі срэбнымі шатамі. Вельмі багатая ў Селішчы закрыстыя, якая захоўвае не адну памятную рэч з суседніх забраных касцёлаў. Бачым тут арнаты, шчодра золатам і срэбрам павышываныя, і пашытыя са слуцкіх паясоў.



***Былы касцёл бернардынаў у Селішчы каля 1914 г.***

Звяртае на сябе ўвагу вельмі старажытны арган, якіх зараз знайсці ўжо немагчыма. Тут шмат працавалі не толькі на рэлігійнай глебе, але нямала было зроблена працы грамадскай. Да 1868 г. тут працавала добра кіраваная парафіяй школа, на жаль, сёння не існуючая. Ёсць тут так рэдка сустраканае на правінцыі ў Заходнім краі, каталіцкае таварыства дабрачыннасці.

Была калісьці парафія ў Кублічах[26]. На высокім пагорку ўзносіцца былы касцёл. Побач невялікае мястэчка і ўладанні калісьці вельмі багатыя; тут-жа побач возера Красніца. З гледзішча стратэгічнага, Кублічы – важная пляцоўка,і ў 1812 г. яна была выкарыстаная. Граф Вітгенштэйн пабіў тут французаў і аддзел баварцаў. Сядзела тут калісьці заможная і магутная радзіна Кубліцкіх, якім належалі вялікія абшары зямлі. Пазней маёнтак пераходзіць да Сушынскіх, Невельскіх, Францкевічаў, Кляноўскіх і Сяляваў. Сёння маёнтак Кублічы ўяўляе з сябе сапраўдныя руіны. Лес суцэльна высечаны. Цудоўны пладовы сад, высаджаны і выпеставаны Пятром Сялявам, вынішчаны дарэшты. Усе дваравыя пабудовы ляжаць у руінах. Нават багаты архіў з шматлікімі важнымі дакументамі быў прададзены габрэям, адным з трымальнікаў, нейкім Сарокам, на пуды, як макулатура. Быў тут вялікі і прыгожы мураваны касцёл Звеставання

Марыі Панны, уфундаваны полацкім стольнікам Юзэфам Клакоўскім у 1642 г. У ім цудатворны абраз Найсвяцейшай Марыі Панны, які заўжды прыцягваў шмат людзей. У 1867 г. касцёл зачынілі і перадалі праваслаўнаму духавенству. Апошнім пробашчам быў тут кс. Якубоўскі. Каталікам было дазволена забраць усё з касцёлу, што тыя з прагнасцю і зрабілі; былі адарваныя нават часткі амбоны. Народ вынес з касцёла цудоўны абраз і ўсе касцёльныя рэчы. Усё гэта у жалобнай працэсіі, ў якой брала ўдзел маса народу, перанеслі да касцёла ў Селішчах, пад гукі званоў. Касцёл жа перарабілі ў царкву.

## Ушачы

Малое мястэчка, сёння гэтак званае "заштатнае", але калісьці ў гісторыі адыграла вялікую ролю. Ляжыць над р. Ушачкай і мае 1300 жыхароў. Маёмасць Ушачы ў 1624 г. належала Кляноўскаму, стольніку полацкаму, а ў 1677 г. Давыду Радзымінскаму-Францкевічу, які разам з жонкай[27] пабудаваў тут кляштар айцоў базыльянаў. Пазней маёмасць пераходзіць да Шчытаў, Жабаў, Плятараў. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Ушачы засталіся галоўным горадам часткі Полацкага ваяводства, якая засталася ў Рэчы Паспалітай. Тут праходзілі павятовыя сеймікі[28]. Пасля далучэння да Расеі ў 1793 г., Ушачы робяць месцам "заштатным" і далучаюць да Лепельскага павету. Мястэчка сёння ня мае аніякага – ані палітычнага, ані гандлёвага значэння. У 1812 г. кароткі час перабываў тут аддзел Вітгенштэйна, было некалькі сутычак з французамі, пра што як памяць засталіся курганы. У 1716



***Герб Ушачаў, нададзены 23 чэвеня 1758 г. разам з прывілеем на самакіраванне. У белым полі каля залатой ракі выява Св. Лаўрэна з рашоткай, на якой, паводле легенды, бый засмажаны.***

***На суседняй староны: Рынак перад касцёлам Дамініканскім. Рэканструкцыя С. Сергачова.***

*Касцёл дамініканаў ва Ўшачах спачатку быў драўляным, васьміўгольным у плане, а двухпавярховы кляштар – мураваным. У 1796 г. на месцы драўлянага пачалася будоўля мураванага касцёла Св. Гераніма – верагодна, так касцёл называўся ад моманту свайго заснавання ў 1716 г. у гонар святога- патрона фундатара, Гераніма Жабы. Яшчэ ў 1818 г. касцёл заставаўся недабудаваным. Пабудаваны,ён уяўляў сабой тыповае для архітэктуры XIX ст. збудаванне з дзвюхвежавым галоўным фасадам (як і лепельскі касцёл Св. Казіміра). (Паводле: С.Сергачев. План города Ушачи 18 в. // Архитектура и строительство. № 2, 1999 г.)*

г. падваявода полацкі Геранім Жаба разам з жонкай фундуюць касцёл і кляштар айцоў дамініканаў. У 1787 г. айцы дамінікане пабудавалі двухпавярховы мураваны кляштар. Закладзеная школка на 6 класаў.

Абраз Насвяцейшай Марыі Панны ва ўшацкім касцёле, маляваны на палатне, быў вядомы цудамі. Панна Марыя стаіць на месяцы, трымаючы ў левай руцэ Дзіцятка Езуса, а ў правай ружанец. Упрыгожваюць абраз срэбраныя шаты, шматлікія воты і каралавая карона. У 1863 г. касцёл і кляштар зачыненыя, частка рэчаў разабраная. Адным днём зачынена чатыры касцёлы ў тых ваколіцах: Кублічы, Чашнікі, Палюдовічы[29] і Ушачы. У 1905 г. пачаліся энергічныя намаганні за вяртанне касцёлаў каталікам; і толькі тады распачатыя праваслаўныя набажэнствы ў былым касцёле. Прыгожы гэта быў касцёл. Манахі ўмелі будаваць і ўтрымліваць у парадку свае святыні. Адзін з братоў-дамініканаў, сапраўдны мастак, намаляваў знакамітыя фрэскі, у якіх гэтак добра захаваная перспектыва, што можна было біцца аб заклад, што гэта не намалявана, але выразана. Пры закрыцці дазволена было каталікам вынесці ўсе касцёльныя рэчы, а пабожныя людзі выламвалі нават часткі амбоны і захоўвалі як рэліквіі. З вялікай працэсіяй абразы і ўсе касцёльныя рэчы перавезлі да Селішча.



Цяжка народу было без гэтай святыні, бо аж 1600 парафіянаў налічвалі Ушачы − нічога дзіўнага, што з усяго сэрца стараліся, калі не аб вяртанні касцёла, дык прынамсі аб пабудове новага. Доўга дабіваліся дазволу, і нарэшце ў 1905 г. атрымалі зацверджанне філіі. Набажэнствы адпраўляліся спачатку ў малой драўлянай капліцы на цвінтары, якая, на жаль, згарэла ў 1911 г. Першым пробашчам пасля адкрыцця ўшачынскай філіі на працягу двух гадоў быў кс. Кілбаса. Удалося нават у 1908 г. дабіцца дазволу на пабудову новай святыні, але бракавала фундушаў. Урэшце Пан Бог дапамог. Знайшліся людзі добрай волі, якія ўсёй душой далучыліся да ідэі пабудовы новага касцёлу, а былі імі пан Рэўт і мясцовая патрыётка, вядомая філантропка, пані Івашэўская. За вялікія старанні парафіянаў, касцёльныя ўлады са сродкаў рэзэрвавага капіталу ўдзялілі дапамогай 1000 руб., пан Рэўт склаў увесь свой капітал 14000 руб. і шмат склала пані Івашэўская. Пастаноўлена было пабудаваць новую святыню, нягоршую ад старой, забранай, якая імпанавала сваймі вялікімі памерамі, магутным выглядам, стромкімі вежамі.



*Будоўля касцёла ва Ўшачах. Каля 1914 г.*

Новы касцёл пабудаваны ў гатыцкім стылі. Пасля кс. Кілбасы парафію ўзначаліў кс. Шылінскі, які з моцнай энергіяй і ахвярнасцю вёў будоўлю. Зараз вядзе будоўлю з няспыннай энергіяй кс. Баркоўскі, і ўсё бліжэй цяпер касцёл да заканчэння, і ўжо на часовым алтары адпраўляецца ў новым касцёле набажэнства.

Ушацкая парафія мае 1600 верных, 13 мяшчанскіх двароў, а рэшта шляхта арэндатарская. Народ урабляе зямлю, а часткова займаецца сплавам лесу, карыстаючыся добрымі воднымі камунікацыямі. Ушачка ўпадае да Дзвіны, а лясоў у гэтых краях шмат, таму сплаў лесу вельмі актыўны. Эканамічны стан істотна пагаршаецца, таму шмат маёнткаў пераходзіць у рукі чужынцаў. У цяжкім стане пробашч: хаця люд з ахвотаю дае грошы на ўтрыманне і будаванне касцёлу (пастаноўлена пра агульныя складкі ў 50 і 20 капеек ад дзесяціны) але такі дарагі касцёл усё з'ядае.

Ва ўшацкай парафіі ёсць капліца ў маёнтку сям'і Івашэўскіх Ухвічы[30]. Прыгожая капліца ў гатычным стылі, у імя Св. Тадэвуша, фундаваная Аркадзем Лубеньскім у 1861 г. Яго сястра, пані Івашэўская, надалей працягвае плённую



*Капліца ў Ухвічах, маёнтку Івашэўскай.*

працу свайго брата. Рэдка можна пабачыць людзей, гэтак адданых сваім ідэялам, і толькі дзеля іх жывучых, як гэтая працаўніца ў мясцовай грамадскай супольнасці. Дзейнасць яе настолькі featured рознабаковая, што застаецца толькі здзіўляцца, як адзін чалавек можа столькі зрабіць. Яна ж з'яўляецца наймацнейшай "спружынай" у справе пабудовы Ушацкага касцёлу. Маёнткам яна не карыстаецца, а імкнецца як найболей зрабіць дабра. Частку свайго капіталу ахвяравала на сельскагаспадарчую школу для народу, і вялікія грошы кладзе на выхаванне беднай моладзі. Актыўная яна ў полацкім таварыстве дабрачыннасці, дзе рухае яго жыццё як старшыня.

## Ула[31]

Дзіўнае ўражанне выклікае Ула – маленькае мястэчка, населенае пераважна беларусамі і троху габрэямі. З гандлёва-прамысловага гледзішча не мае яно вялікага значэння. Нават пракладзеная чыгунка Рыга–Арол не разварушыла тысячнага насельніцтва. У сённяшняй Віцебскай губерні ў Лепельскім павеце, над Дзвіною, пры ўпадзенні да яе рэчкі Улы, было ў старажытнасці малое мястэчка названае, ад упадаючай рэчкі, Улай.

Гістарычныя згадкі пра гэта мястэчка ў часе войнаў з Масквой выглядаюць так. У час панавання Жыгімонта Аўгуста ў 1566 г. стасункі з Маскоўскім Княствам усё больш ускладняліся. Цар Іван у дыпламатычных лістах і прамовах дэкляраваў мір, аднак у рэчаіснасці яго не хацеў; нягледзечы на замірэнне, рабаўнічыя аддзелы з Масковіі пляжылі памежныя літоўскія правінцыі. А тым часам цар Іван, рыхтуючыся да вайны, загадаў закласці на захопленых землях некалькі абарончых замкаў, у іх ліку з'явіўся замак каля старажытнага мястэчка пры ўпадзенні Улы да Дзвіны на мысе – доўгім і вузкім кавалку зямлі, які далёка ўваходзіў паміж імі і праз гэта быў рэкамі абаронены. Замак у Уле праз геаграфічнае становішча мусіў утвараць для цара пункт стратэгічна важны; таму ў тым жа годзе на сейм у Вільні былі

прысланыя ягоныя паслы. За абавязковую ўмову ставілі яны захаванне за Масквою Полацкіх правінцый з усімі замкамі, у тым ліку і Улы, жадаючы адступлення Рэчы Паспалітай да мяжы Віленскага ваяводства, а таксама патрабавалі ўсе Інфлянты аж да Дзвіны. Кароль адкінуў гэтыя ганебныя ўмовы, і вайна стала непазбежным вынікам гэтых няўдалых перамоваў. У 1568 г. Жыгімонт Аўгуст зрабіў вялікую вайсковую падрыхтоўку, сканцэнтраваўшы да 100 000 войска, як падлічваюць нашыя храністы, у Радашковічах, куды і прыехаў з вайсковым аглядам, прабыўшы ў лагеры два месяцы, якія выкарыстаў для навукі і падрыхтоўкі жаўнераў. Калі ж дзяржаўная справа, а менавіта перамовы з інфлянцкімі пасламі ў Горадні, змусілі яго пакінуць лагер, распусціўшы значную частку сабранага войска і перадаўшы камандаванне Яну Гераніму Хадкевічу, жмудскаму старасту, паслаўшы яго здабываць абарончы замак Улу. Сам жа вярнуўся ў Горадню. Гэта выправа мела перадусім палітычную мэту; а менавіта падтрымаць меркаваны бунт баяраў, якіх мусіў падбухторыць нейкі шляхціч Казлоў, жанаты з Карсакоўнай. Казлоў быў таемна пасланы ад Літоўскіх сенатараў да Масквы дзеля сувязі з тамтэйшымі баярамі, мусіў пераказаць ім сакрэтны план, згодна з якім баяры мелі выдаць Івана каралю, а князя Уладзіміра Андрэевіча пасадзіць на царскі трон. Калі Казлова другі раз паслалі з той сакрэтнай місіяй, ён быў злоўлены і пасаджаны на палю. Калі вайсковыя падрыхтоўкі, зробленыя Жыгімонтам Аўгустам у такім вялікім маштабе і з такім вялікім розгаласам, праз каралеўскую непаслядоўнасць, былі скончаныя, тую нягеглую вайну з гумарам назвалі Курынай.

Хадкевіч вырушыў з войскам пад цяжкапрыступны замак Улу, абклаў яго і пачаў штурмаваць. Доўгі час вайсковыя дзеянні Хадкевіча былі безпаспяховымі, Масква перапраўляла з Полацка па Дзвіне вайсковую дапамогу, чым стала ўзмацняла абарону. Марцін Бельскі паведамляў: “Калі прыйшла абкладзеным у замку дапамога з Полацку, маскалі мацней бараніліся”. Шмат нашых людзей пры штурме забілі, рыць акопы было вельмі цяжка, бо зямля была замёрзлай, таму штурм мусілі спыніць. Хадкевіч, адкліканы каралём у сталіцу па дзяржаўных справах, перадаў камандаванне войскам князю Раману Сангушку, які пайшоў на новы прыступ. Цікавыя падрабязнасці аваподвання замкам засталіся ў гісторыі. Паслухаем, як аб іх распавядае хроніка: “Таго ж году месяца верасня, апавядае далей Бельскі, князь Раман гетман польны Улу, замак абарончы маскоўскі ўзяў і спаліў у такі спосаб: наперад казакоў у чоўнах пад замак выправіў, а сам выступіўшы з аддзеламі з-пад Полацка і Туроўлі, уначы ротмістраў пяхоты Рачкоўскага і Тарноўскага да сценаў з драбінамі накіраваў. Казакі ж з Бірулям, Мінкам ды Аскеркам пачалі падсякаць брамы і фарты. Тады ротмістр Мікалай Салагуб, не марудзячы, уброд перайшоў Улу з усёй сваёй ротай, узмацніўшы пяхоту, якая па драбінах лезла на сцены і

секлася з масквой на брамах. Тады, калі ўжо сам замак гарэў, сам князь Раман паслаў сваю роту, а таксама ротмістраў Войну і Тышкевіча ды князя Лукомскага, якія канчаткова даціснулі маскву, што адчайна баранілася пасярод агню, і ўзялі замак, захапіўшы двух ваяводаў братоў Вельямінавых, важных баяраў 300, а стральцоў з рушніцамі 800[32]. Але ніякай іншай карысці ад таго не было, бо ўсё ў замку згарэла, і мусілі нашы яго нанава будаваць".



*Ульскі замак. Гравюра 1568 г.*

Ульскі Замак, здабыты князем Раманам Сангушкам, застаўся ад таго часу ў літоўскіх руках. Адбудаваны і ўзмоцнены, ён быў памежнай цвярдыняй супраць нападаў Масквы. У 1580 г. Стэфан Баторы рыхтаваўся да паходу на Вялікія Лукі. У Чашніках ён збіраў войскі, а пасля прыняцця там маскоўскага пасла, асабіста выехаў да замку ў Уле, з мэтай яго узмацнення, каб абараніць край, які заставаўся без абароны войска, што вырушыла на Вялікія Лукі. Пасля асабістага агляду замку Баторы знайшоў, што ўсходні кірунак быў слаба абаронены, і загадаў насыпаць паміж Улаю і Заходняй Дзвіной шанец вышынёй шэсць сажняў, і да сёння называнага валам Баторыя.

На гэтым заканчваюцца гістарычныя згадкі пра замак ў Уле. Праз колькі часу замак быў разбураны[33], а мястэчка страціла сваю знакамітасць. Пэўных датаў у гісторыі не захавалася. Дасёння існуюць шанцы па берагах рэк вакол міжрэчнага мысу. Захаваўся таксама і вал, які сцярог замак ад поўдня і ўсходу, званы шанцам Баторыя, за якім знаходзіцца парафіяльны касцёл і плябанскія пабудовы. Катлавіна замку засеяная пробашчаўскім агародамі. Улянскія землі належылі Быстрыцкім, потым Лукомскім, Прысецкім, Меншыкавым, Патоцкім, а потым былі прададзеныя Рэўтам і ў іх руках заставаліся да нядаўняга часу.

На руінах колішняга замку, цалкам знішчанага, Яўстафі Лукомскі, каралеўскі сакратар, і Браніслаў Прысецкі, войт вількамірскі, пабудавалі ў 1669 г.

драўляную святыню пад тытулам Святога Духа і аддалі айцам дамініканам, а на ўтрыманне айцоў невялікі маёнтак. На жаль, у 1782 г. адзін са спадкаемцаў фундатара Прысецкага забраў яго ад айцоў дамініканаў, і тыя мусілі пакінуць Улу. Гэта не быў, здаецца, самастойны кляштар, але толькі рэзідэнцыя дамініканаў з Чашнікаў. У 1800 г. чарговы ўладальнік Улы Ігнацы Рэўт, маршалак шляхты Лепельскага павету, аднавіў зямельнае дараванне касцёлу, а арцыбіскуп магілёўскі Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч зацвердзіў Ульскі касцёл як парафіяльны.

З 1853 па 1864 гг. ксяндзы Янусевіч і Мотуз рупіліся аб пабудове цяперашняй святыні. І ўдалося гэта праз неверагодныя высілкі кс. Матуза. Незвычайны гэта быў чалавек. Просты, можа троху сярмяжны, жыў толькі дзеля сваёй ідэі. Касцёл, парафія былі адзінай мэтай жыцця – пакладаў на гэта ўсе працы і малітвы. Разумеў ён людзей, разумелі і любілі яго прафіяне. Як бацька, караў непаслухмяных, выскачак, дбаў пра прыгожае набажэнства, сам вучыў людзей чытаць, цэлымі гадзінамі праседжваў у касцёле на ўслонах, навучаючы людзей спяваць. І плён ягонай працы застаўся багаты – сёння ўся парафія ўмее чытаць і спявае найлепей у ваколіцы.



***Выгляд ульскага касцёлу каля 1914 г.***

Як ужо прыгадвалі, былі ў Уле ксяндзы дамінікане, але на могілках у капліцы служылі капеланы дыяцэзыяльныя. Вельмі цікавыя ў Уле метрычныя кніжкі – падаюць шмат падрабязнасцяў аб абслугоўванні парафіі. Так, напрыклад, з іх можна даведдацца, што статус пробашчаў мясцовыя ксяндзы атрымалі толькі ў 1812 г., што былі часы, калі Ула мела ажно трох вікарыяў, што доўгі час пры дыяцэзыяльных ксяндзах вікарнымі былі ксяндзы бернардыны. Цікавая метрычная кніжка з надпісам: “Кніга метрык хросных касцёлу парафіяльнага Ульскага, паводле інструкцыяў, дадзеных візітатарам у 1828 г. у часе візыты генеральнай, а 1829 г. месяца красавіка, з разнастайных аркушоў і шпаргалак сабраная”. З тых кніжак даведваемся, што пробашчамі Ульскімі былі: у 1825 г. кс. Альхімовіч, у 1834 г. кс. дэкан Галецкі, кс. Сульжынскі, бернардын вікарны. Ад 1848 г. кс. вікарныя дыяцэзыяльныя.

Кс. Рачкоўскі, кс. Аношка, у 1856 кс. Якусевіч (вікарны кс. Мотуз), у 1864 г. кс. Мотуз, у 1878 г. кс. Батановіч, у 1901 г. кс. Зэльба, кс. Була, кс. Юхно, кс. Канапацкі, кс. Мяжвінскі, у 1907 г. кс. Мацкевіч, кс. Казлоўскі, кс. ТэадорУлікоўскі[34] .

Цяжка не затрымацца над асобай аднаго з ульскіх пробашчаў, які хаця і нядоўга быў у Уле, прыгожую па сабе пакінуў памяць. Быў гэта кс. Мяжвінскі. Ня раз называлі яго вар'ятам, хворым, але меў ён толькі адну хваробу, такую рэдкую ў нашым часе, што любіў касцёл і народ больш за самога сябе, свае выгоды. Тым толькі можна патлумачыць шалёную прывязанасць народу, якую здабываў сабе ўсюды. Ужо прайшло часу, як кс. Мяжвінскі выехаў з Улы, змушаны да гэтага акалічнасцямі, якія не залежалі ад касцельных уладаў, а народ яшчэ і сёння памятае дзейнасць гэтага Божага апостала. Найвялікшы плён прынесла яго энергічнае змаганне з п'янствам, якое зменшылася сярод людзей. Добра ведаючы беларускую мову, прамаўляў ён да сэрцаў людзей, і быў заўсёды пачуты. Шмат зрабіў пасля яго кс. Мацкевіч, але і яго, на жаль, хутка прыбралі. Сталае перасоўванне ксяндзоў фатальна адбівалася на стане парафіі.



***Касцёл Св. Лукі ў Уле.***
***З малюнка Напалеона Орды***

Вельмі прыемная ўльская парафія, заселеная пераважна каталіцкім людам, але мае пэўныя цяжкасці ў абслугоўванні. Вельмі невыгодны геаграфічны стан парафіяльнага касцёлу. Знаходзіцца на паўвыспе, адрэзаны рэкамі ад усёй парафіі, што прынамсі два разы на год ускладняе даезд людзям да касцёлу, а пробашчу выезд да парафіянаў. Знаходжанне ад даўніх часоў ксяндзоў у капліцы за ракою, каля самай Улы, неяк лагодзіла гэтую цяжкасць. Аднак няраз бывала, што на рацэ лёд, а пробашч, пакліканы да хворага ,у малым чоўне, прывязаным да вяроўкі, пераплывае Дзвіну, заглядаючы ў вочы смерці, якая ў кожную хвіліну можа надысці.

Сённяшнюю Улу ўтварае невялікае мястэчка, заселенае пераважна габрэямі, не мае гандлёва-прамысловага значэння, не дапамагае ў гэтай сітуацыі нават добрая камунікацыя па Дзвіне і Рыга–Арлоўскай чыгунцы. Ула мае да 2000 жыхароў. Ульская парафія мае 4 860 верных, адна з найвялікшых сярод іншых, а што яшчэ выгодней для пробашча – менш разлеглая. Найдалейшая мясцовасць знаходзіцца ад касцёла за 25 вёрст. Апроч некалькіх двароў і

невялікай колькасці шляхты, парафію складаюць вяскоўцы. Ёсць шмат вёсак чыста каталіцкіх, асабліва паблізу ад касцёла. Тлумачыцца гэта часткова тым, што, прадчуваючы надыходзячы пераслед, шмат уніятаў перайшло на лацінскі абрад.

У парафіі Ула чатыры двары, некалькі фальваркаў  і 45 вёсак. Люд выключна пабожны. Вельмі любіць спяваць у касцёле. Дзіўныя ўражанні выклікае касцёл у святочныя дні. Багабойны беларус з ахвотаю наведвае святыню. У шэрых сярмягах жанчыны, з хусткамі на галавах, летам найчасцей у лапцях, перапаўняюць касцёл. Поўна іх у свята ад самага ранку, дзе манатонным спевам праслаўляюць Пана над Панамі. А колькі ў тым спеве надзеі і смутку, што здаецца, уся людская душа ў ім адбіваецца! Маюць ульскія парафіяне і свае заганы, пра якія цяжка прамаўчаць. Асабліва астатнім часам распаўсюдзіўся крадзеж прыватнага лесу, прытым большасць вяскоўцаў уяўляюць гэту з’яву за дазволеную. “Лес Божы” – прыжылася прымаўка ў людзей. Яшчэ больш распаўсюджанай заганай ёсць забабоны: загаворы, знахарства, настолькі гэта з’ява звыклая, што ніхто гэтага не хавае, а наадварот, уважае за з’яву звыклую і дазволеную.   Люд пераважна займаецца земляробствам, часткова сплавам лесу, часткова выходзіць ў заробкі. Гандаль суцэльна ў руках габрэяў. У часе прабашчоўства кс. Мацкевіча паўстала кааператыўная крама, але хутка збанкрутавала.

Ульскі касцёл мураваны, з дзьвюма нізкімі вежамі. У касцёле ўсё дыхае традыцыяй. Бачым алтары з вельмі старажытнымі абразамі, як напрыклад, абраз Маці Божай у срэбных шатах. Злева вельмі стары абраз св. Антонія. Раней тут выстаўлялася на Вялікі тыдзень труна Хрыстуса Пана. Пры дапамозе спецыяльнага механізму, статуя Панскага Змёртвыхпаўстання, з манстранцыяй і Гостыяй падымалася досыць высока над труной. Касцёл патрабаваў абнаўлення, якое і пачалося ўвесну 1914 г. Парафіяне абклаліся добраахвотным падаткам, і ў валасной управе зрабілі пра гэта юрыдычную ўхвалу.

Сучасны пробашч кс. Тэадор Кулікоўскі энергічна заняўся рэстаўрацыяй святыні. Раней на тэрыторыі парафіі было некалькі ўніяцкіх цэркваў, а нават пару з іх пабудавалі айцы дамінікане. Гэтак ва Ўсвеі царкву пабудаваў ксёндз дамініканін Дамброўскі. Была таксама уніяцкая царква ў Марцінове ад 1796 да 1839 гг. Старая драўляная капліца ёсць за Дзвіной на могілках, дзе, як казалі, жылі капеланы. Ёсць капліцы ў Нізгалаве, Паўазёр’і[35] , Обалі, Ляхаве[36] . Недалёка ад Нізгалава знаходзіцца Сакалова. Каля ўяздной брамы стаіць ладны каменны крыж, як помнік памятнай бітвы. Тут над возерам Паўазёр’е ва ўрочышчы Ласіная Гара пацярпеў вялікую паразу Хаванскі[37] .

Ёсць капліца ў Ляхаве, зусім не выбітная, але мае скарб, вартасць якога большая за ўсе скарбы зямныя – цудоўны абраз Маці Божай. Цікавая гісторыя гэтага абраза. Землі Ляхава ,і капліца, і цвінтар належалі здаўна аселай тут

сям'і Дварэцкіх-Багдановічаў. Адзін з Багдановічаў – Юзэф, у 1862 г. меў у Шатроўскім старостве маёнтак Новікі. Там была уніяцкая царква, прызначаная на закрыццё, апошні пробашч а. Лапа ў 1839 г. мусіў царкву пакінуць і аддаць праваслаўнаму духавенству. У той час Юзэф Багдановіч цяжка хварэў, а лекары акрэслілі яго стан як безнадзейны. З гарачай верай прасіў хворы, каб прывезлі да яго цудоўны абраз з Шатроўскай капліцы, што і зрабілі. І як толькі паднеслі абраз да ложка, хворы ачуняў у тую ж хвіліну. Пабожны паабяцаў Богу, што пабудуе капліцу да цудоўнага абразу. Тым часам у Новіках царкву забралі, а мясцовы "архірэй" аддаў цудоўны абраз сям'і Багдановічаў. На абразе надпіс: "За аздараўленне і апеку Найсвяцейшай Маткі Боскай, з пачуццём удзячнасці на пабудаваным ў яе гонар алтары складае 1862 г. сакавіка 19 дня Юзэф Багдановіч".

---

[1] Ян Чачот (1796–1847) – беларускі і польскі паэт, фальклярыст. На Лепельшчыне пачаў збіраць беларускі фальклор і выдаваць зборнікі "Сялянскія песні" (1837–46, 6 тамоў).

[2] Да канца XIX ст. Белай Руссю лічыўся толькі ўсход сучаснай Беларусі – Падзвінне і Падняпроўе.

[3] Польскі даследчык М. Радван (Radwan M. Carat wobec kościoła greckokatolickiego w zaborze rosyjskim. Roma-Lublin, 2001) прыводзіць звесткі, што пры ліквідацыі Уніі ў 1839 г. да Лепельскай лацінскай парафіі паспелі далучыцца 1963 уніяты. Расейскія ўлады прымушалі іх перайсці ў праваслаўе, аднак здолелі прымусіць толькі 83 асобы. Гэта тлумачыць, чаму лепельскія каталікі кепска ведалі польскую мову – бо яны былі карэннымі беларусамі, нядаўнімі выхадцамі з сялянаў-уніятаў.

[4] Сучасны Полацкі раён

[5] У імя Св. Тройцы, заснаваны езуітамі ў 1773 г.

[6] Самым вядомым з быкаўшчынскай галіны Козелаў-Паклеўскіх быў удзельнік паўстання 1863 г., сасланы ў Зах. Сібір, Альфонс Фаміч (1809–1890). У выгнанні ён праявіў непаспалітыя здольнасці прадпрымальніка, за кароткі час пабудаваўшы вялізарную гандлёва-прамысовую імперыю ў Табольскай і Цюменскай губернях, што складалася з бровараў, гарэльняў, металургічных заводаў, прадпрыемстваў па лесанарыхтоўцы, здабычы золата ды асбеста ды інш. Ягонымі высілкамі пабудаваная чыгунка Екацерынбург-Цюмень, арганізаванае паравое суднаходства па рр. Абі, Іртышы і Туры. Актыўна дапамагаў сасланым удзельнікам паўстанняў 1830-31 і 1863-64 гг. Усяго яму належала нерухомасць у 17 гарадах і сёлах. А.Ф. Козел-Паклеўскі паслыжыў рускаму пісьменніку Д. Маміну-Сібіраку прататыпам Ляхоўскага ў рамане

“Прывалаўскія мільёны” ды Май-Стаброўскага ў “Хлебе”.
[7] Усе − Полацкі раён
[8] Полацкі раён
[9] Тамсама
[10] Тамсама
[11] Лепельскі раён
[12] Пры фундацыі касцёлу быў нададзены маёнтак Фатынь (Лепельскі раён).
[13] У Іваньску (Чашніцкі р-н) у канцы XIX ст. яшчэ захоўвалася старая драўляная капліца, пабудаваная калісьці езуітамі, якая належала да парафіі ў Губіне.
[14] Цяпер Ушацкі раён
[15] Лепельскі раён
[16] Цяпер Ушацкі раён
[17] Вінцэнты Валадковіч − буйны землеўласнік і прадпрымальнік Лепельскага павету ў канцы XIX ст. У Чашніках і ваколіцах праводзіў узорную гаспадарку: гарэльні ў Іванску і Аліпалі, крупярня ў Скіне, тартак, паперня, млыны і г.д. У канцы 1880-х меў адзіны на ўсю Беларусь лакамабіль, першую ў краіне тэлефонную лінію, якая злучала прадпрыемствы ў Скіне, Іваньску і Смалянцах.
[18] Ежы Станіслаў Цеханавецкі (1893−1930), апошні ўладальнік Бачэйкава (Бешанковіцкі раён), польскі дыпламат. Цеханавецкія − магнацкі род гербу “Дуброва”, з пачатку XVI ст. валодалі Бачэйкавам, якое зрабілася цэнтрам іх вялікай латыфундыі на усходзе Лепельскага павету. З XVIII ст. бачэйкаўская галіна роду ўжывае графскі тытул. Апошні прадстаўнік роду, граф Анджэй Станіслаў Цеханавецкі (нар. у 1924 г.) − ганаровы старшыня Згуртавання беларускай шляхты (жыве ў Лондане).
[19] Св. Лукі
[20] Насамрэч дамініканскі кляштар у Чашніках заснаваны ў 1674 г. вялікім харунжым ВКЛ Зыгмунтам Адамам Служкам. На яго месцы ў 1784 г. пабудаваны мураваны касцёл у стылі позняга барока. Пад час паўстання 1863−64 гг. у касцёле размяшчаўся апорны пункт супраціўлення ўрадавым войскам, таму пасля задушэння паўстання ён быў зачынены і ператвораны ў Мікалаеўскую праваслаўную царкву.
[21] Касцёл пабудаваны кс. Ляскоўскім у 1785 г.
[22] Маецца на ўвазе Ульская бітва 26.01.1564 г. каля Іваньска, у якой 10-тысячнае войска ВКЛ на чале з вялікім гетманам Мікалаем Радзівілам Рудым разграміла 24-тысячнае войска П.Шуйскага. Загінула каля 9 тыс. расійскіх ратнікаў, сарваныя планы далейшага наступу на Менск.
[23] Чашніцкі бой 19(31).10.1812
[24] Сучасны Ушацкі раён
[25] Паводле іншых звестак, гэта адбылося ў 1729 г. Іншым фундатарам быў Ян Язэп Рагоза, падчашы і ротмістр полацкі.

[26] Ушацкі раён
[27] Кацярынай з Пратасевічаў. Іншымі дабрадзеямі былі Ян Жаба, ваявода мінскі, і ягоная нявестка Цэцылія з Ліпскіх.
[28] Пра гэта гл. асобны раздзел кнігі – фрагмент аповесці І. Ходзькі "Успаміны квестара".
[29] Полацкі раён
[30] Тамсама
[31] Сёння – гарадскі пасёлак Ула ў Бешанковіцкім раёне
[32] Ульскі замак захоплены Р. Сангушкам 20 верасня 1568 г.
[33] Ульскі замак разбураны пад час вайны з Расіяй 1654–1667 гг.
[34] Вядомыя імёны і іншых ульскіх пробашчаў: кс. Францішак Ксаверы Вейла (ад 1801, пазней магілёўскі пралат); Антоні Ляткоўскі (ад 1808); Караль Зубчыцкі (ад 1811); Антоні Сушынскі (ад 1819); Ян Альхімовіч (ад 1821); Ежы Шыманьскі (ад 1822); Павел Вікеровіч (ад 1826); Ян Кучыньскі (ад 1830); Францішак Алаізы Рачкоўскі (ад 1848); Габрыэль Аношка (ад 1849); Шымон Якусевіч (ад 1857). Доўгі час ульскія пробашчы былі адначасова дэканамі полацкімі, пазней парафія далучаная да Лепельскага дэканату. У сакавіку 1882 г., падчас пажару, які знішчыў у Уле 120 дамоў, згарэў дах на касцёле, столь, арганы і шмат іншага начыння.
[35] Абодва – Бешанковіцкі раён
[36] Обаль і Ляхава – цяпер Шумілінскі раён. Гэтая частка Ульскай парафіі, на правым беразе Дзвіны, выходзіла за межы Лепельскага павету
[37] У канцы верасня 1660 г.

# КАРОТКІЯ ЗВЕСТКІ
# ПРА АДНАЎЛЕННЕ ІНШЫХ КАСЦЁЛАЎ

## Чашнікі

Аднаўляцца каталіцкае жыццё пачало тут у 2000 г. Першыя св. Імшы адпраўляліся па прыватных хатах. Пасля рэгістрацыі парафіі (21. 06. 2001) пад тытулам Перамянення Пана, пачалося будаўніцтва капліцы на адной з традыцыйна каталіцкіх вуліц гораду, насупраць зруйнаваных каталіцкіх жа могілак.На сёння гэта вельмі прыгожы будынак. Парафія мае паўнавартаснае сакрамэнтальнае і духоўнае жыццё, парафіяне шмат пілігрымуюць.

## Бешанковічы

За сваю гісторыю гэтае мястэчка перажыло дзіўны канфесійны падзел на каталіцкую і праваслаўную часткі, а было гэта пры падзеле Рэчы Паспалітай. На каталіцкім баку былі касцёл і уніяцкая царква. У 60-х г.г. мінулага стагоддзя будынак зачыненага касцёла быў разбураны. Парафія Пятра і Паўла зарэгістраваная 10.08.2000г. З прыватнай хаты перайшлі ў набыты пад капліцу дом у цэнтры мястэчка, каля царквы. Маецца ўжо і зацверджаны праект пабудовы новага касцёла. Разам з ксяндзом на парафіі працуюць сёстры уршулянкі.

## Ушачы

Ад моманту атрымання мястэчкам Магдэбургскага права св. Лаўрэн апякуецца не толькі парафіяй пад сваім тытулам, але і ўсім паселішчам, на гербе якога ёсць яго кананічнае адлюстраванне. Парафіяльны фэст урачыста адзначаецца 10 жніўня. Зарэгістраваная ў 1994г. (23. 08) парафіяльная супольнасць арэндавала памяшканне ў РАЙПО, а 24 кастрычніка сёлета, увайшла ў адрэстаўраваны і нававысвечаны касцёл.

## Ула

Яшчэ добра захаваўшыся будынак касцёла згарэў у 60-ыя г.г. і да пачатку 90-х уяўляў хіба не найгоршае месца- несанкцыянаваны сметнік. Каталіцкае насельніцтва, з добрай тысячы чалавек, уяўляе кампактную выспу сярод навакольных праваслаўных людзей. Духоўнае жыццё пачало адраджацца ў 1992г. Тады ж была зарэгістравана парафія св. Тройцы 14.07.( паводле



*Будоўля касцёла ў Новалукомлі. 2004 г.*

тагачаснага нашмат лагаднейшага закону). У 1999г. скончаны будаўнічыя працы і ўрачыста асвечаны кардыналам Казімірам Свёнтакам касцёл. Абслугоўвае парафію даязджаючы разам з сёстрамі ксёндз з Бешанковіч. Неўзабаве мусіць быць вырашана пытанне з прызначэннем сталага пробашча.

## Новалукомль

«Новалукомль- маладосць мая» дэкляруюць кумачовым транспарантам на галоўнай вуліцы жыхары гораду энэргетыкаў, які сёлета адсвяткаваў 40-годдзе.

На будаўніцтва ЦЭЦ і жылля ў сваім часе прыехала сюды шмат моладзі з каталіцкіх сем яў і да 1998г.(12. 03), калі была зарэгістравана парафія св. Магдалены, ня мела нармальнага, сталага рэлігійнага жыцця. Зараз парафія жыве на вялікай будаўнічай пляцоўцы касцёла( і ў простым і ў пераносным сэнсе) займаючы пад Імшу толькі невялікае падсобнае памяшканне. Знаходзіцца будучы касцёл у цэнтры гораду. Мае стрыманую класыцыстычную архітэктуру.

# СОЙМІКАВАЯ СЕСІЯ

*Ігнацы ХОДЗЬКА*

*Маляўнічае і выразна іранічнае апісанне сойміку Полацкага ваяводства ва Ўшачах пачатку 1780-х пакінуў славуты пісьменнік XIX ст. Ігнацы Ходзька. Праз недахоп годных памяшканняў правінцыйныя сойміківі часта адбываліся ў касцёлах – у дадзеным выпадку, ва ўшацкім касцёле дамініканцаў. Кожная з дзвюх партый, “сьвебодчыкі” і “запончыкі”, імкнецца абраць дэпутатамі на вальны сойм сваіх кандыдатаў. Некаторыя з персанажаў Ходзькі размаўляюць па-беларуску – гэтая мова будзе захоўвацца ў асяроддзі лепельскай шляхты, асабліва дробнай, яшчэ і праз стагоддзе.*

Пан ваявода ўжо паслаў шукаць мяне ва ўсе бакі; але калі я з'явіўся да яго і патлумачыў прычыну свае адсутнасці, калі прыйшоў і пан Станіслаў, дык ён абняў нас абодвух і павіншаваў з вікторыяй.

***Соймік у касцёле паводле гравюры Норбліна (канец XVIII ст.)***



Мы трапілі на самы *consilium bellicum*[1]. Тут ужо быў пан падваявода Корсак, пан Рудаміна, пан Шырын, пан Падвінскі і яшчэ колькі прыхільнікаў ваяводы. Пасля ўчарашняга эксцэса, калі падобная *periculum*[2] магло паўтарыцца, на думку ваяводы і асобных паноў, што сабраліся на раду, неабходна размясціць міліцыю на могілках блізу касцёла і паставіць варту ля дзвярэй. Ужо нават сказаў мне ваявода:

– Святы ойча! Ляці да Пякарскага, няхай вядзе войска з усім рыштункам у мястэчка… капэла наперадзе.

– А хто ж будзе соймікаваць? – адазваўся пан Падвінскі. – Бо, мосці ваявода, ані пан падкаморы, ані хто-небудзь са шляхты з ягонае партыі, ані нават я сам не ступлю нагою ў касцёл, калі ён будзе аточаны войскам. Хоць бы Яснавяльможны пан і адкрыў соймік, і абраў паслоў, але гэта будзе ані легітымна, ані дзеля панскага гонару, а нядобрая слава, якая ўжо і так пашыраецца сярод шляхты, што Яснавяльможны пан хоча дзейнічаць рэпрэсіўна, спраўдзіцца, і ўжо пасля гэтага нічога не выправіш.

– Што ж рабіць, святы ойча?

– Дзейнічаць, мосці дабрадзею ваявода, як належыць шляхетнаму сенатару і галаве ваяводства, але не забываць і пра асцярожнасць. Па-праўдзе, заўзятасць праціўніка вялікая, але ўчарашні стрэл зроблены не па-іхняму, перадусім, загаду, бо шляхетныя і прыстойныя грамадзяне да такое акцыі цалкам не здольныя, і крыўдзіць іх той, хто так думае пра іх; а ўвогуле, у нашае пачцівае шляхты і хрысціянскіх паноў болей галасу, чым злосці…

– А карацей кажучы, святы ойча?

– Карацей кажучы, ідзі пан смела ў касцёл і займай сваё сенатарскае *stallum*[3]; кліч да сябе ўрадоўцаў земскіх і адкрывай соймік. Падабраныя і выпрабаваныя прыяцелі аточаць пана і нічога не варта палохацца.

Згадзіліся ўсе з гэтаю мудраю радаю пана пісара, а пасля прамовіў да нас з панам Станіславам ваявода:

– Святыя айцы! Выберыце сто шабляў надзейных і разважлівых ды пасадзіце іх блізу вялікага алтара; а як выканаеце ўсё, васан, пане Станіславе, заставайся за камандзіра, а вашэць, святы ойча, вяртайся сюды дапамагаць мне.

Мы з панам Станіславам накіраваліся да ксяндза-прыёра дамініканаў, бо ў іхнім касцёле меўся адбыцца соймік, а пасля пайшлі з ім у касцёл і вынеслі адтуль з належнаю пашанаю *Sanctissimus*[4] у кляштарную капліцу; затым *in ordine*[5] кляшторных братоў лыкнуўшы на сняданак *crematum*[6], паспяшаліся выбіраць гвардыю для ваяводы, забраўшы касцельныя ключы з сабою.

– Пане браце! Пане Міхале! – сказаў пан Станіслаў. – Чаго нам дарэмна бадзяцца? Пад маёй *манудукцыяй*[7] пяцьдзесят Парчынскіх, цэлая ваколіца; хлопцы, як дубы; я займу з імі *прэзбітэрыю*[8], ручаюся, што яны стрымаюць запончыкаў і што ніхто, апрача ваяводы і ўрадоўцаў, і носа за *краткі*[9] не паткне.

*Dictum – factum*[10]. Я пачакаў паўгадзіны на могілках і ўбачыў пана Станіслава, які вёў сваіх *грацыялістаў*[11]. Гарачы гультайскі бігас, якога на сняданак цэлы кацёл з'елі, і гарачы мёд, якім шчодра запівалі, зачырванілі іхнія твары і насы; ідучы паважна, яны толькі выцiралі тлустыя вусы і спацелыя чупрыны.

Нашыя праціўнікі, выскокваючы з двароў, крычалі:

– Сьвебодчыкі! Куды вы, сьвебодчыкі?

Парчынскія пазіралі на іх з-пад ілба, як мядзведзі, і спакойна цягнуліся; але паспрабуй да іх падыдзі!.. Апьбо зачапі!.. Як стукне які!..

Пасадзіўшы іх паводле інструкцый пана ваяводы блізу вялікага алтара, я адчыніў насцеж дзверы касцёла, але замкнуў фортку закрыстыі і схаваў ключ за пазуху, каб на ўсялякі выпадак мець вольны шлях дзеля рэтырады. Пан Станіслаў застаўся за камандзіра, а я пайшоў паведаміць ваяводзе. Пасля ўсе мы рушылі ў касцёл.

Пан ваявода *магніфіцэнтарам*[12] выйшаў і, даліпан, па-панску. Кунтуш *гранатавы*[13] з саеты, як атласны, са шнурамі і кутасамі залатымі; жупан шоўкавы, зашпілены пад горлам *карбункулам*[14], які каб брат шляхціц меў, дык хлеба – на ўсё жыццё; багаты пас у карпіную луску, аж золата цякло з фрэнзляў; нарэшце, блакітная стужка Белага Арла і зорка на грудзях ды палаш у похвах з *яшчуру*[15] і залацістае бляхі. Усё гэта да пекнае фігуры пана ваяводы выдатна пасавала. Пан шчуплы, але не худы, белатвары, валасы падстрыжаныя, аднак брытваю яму лоб не голяць, бо і фрызуры, і паголеныя лбы выходзяць ужо з моды; вочы блакітныя, вусы венгерскія, вопратка кароткая, боты, як улітыя. І калі так выстраены ды ў добрым гуморы падсунецца хвацка да якое кабеткі, дык расце як на дражжах дабрадзейка, а пані ваяводзіна безупынна табаку ўжывае.

За панам ваяводам ішлі нашыя прыяцелі і земскія ўрадоўцы; я за імі вёў *circiter*[16] трох сотняў чалавек шляхты, якія, як і сьвебодчыкі, пасля бігаса і паленага *крупнічку*[17] былі добра падпітыя. Як мог супакойваў іхняе гарлатанне, граміў выхвалянні; і слухалі мяне, бо ведаючы амаль кожнага *de nomine et cognomine*[18] і забяспечваючы іх шчодра, я здабыў сярод іх вялікую *кансыдэрацыю*[19].

Падыходзячы пад касцёл, мы пачулі там страшэнны шум; калі ж меліся ўвайсці, Юноша, знаёмы нам запончык, закрычаў на ўсё горла:

– Калі нас ваш Твардоўскі (так яны празвалі пана Станіслава, здзекуючыся з ягонае кульгавае нагі) не пускае за краткі, то мы вас ў касцёл не пусцім і замкнём дзверы перад носам.

І праўда, ён зачыніў касцельныя дзверы і заваліў іх знутры.

У касцёле яшчэ большы ўзняўся галас. Мы баяліся, каб не закрывавілі дому Божага. Але не ведалі панове запончыкі, што ў мяне ў кішэні ёсць

спосаб увайсці ў касцёл і без іхняе ласкі; я аддаў ключ ад закрыстыі ваяводу.

− Сьвяты ойча! Маеш розум, − сказаў ён.

Я хацеў нагадаць яму пра інфіму, але, уласна, прыйшло на памяць, што на мне палевы атласны жупан.

Мы раптоўна апынуліся ў касцёле сярод нашае сьвебодчынскае грамады. Запончыкі *obstuperunt*[20] , убачыўшы нас, як з неба зляцелых.

− Здрада, здрада! − крычаў п'яны Юноша. −Твардоўскаму д'ябал дапамагае!

− А ты, ерэтык пракляты, − закрычаў я, імкліва набліжаючыся да яго, у доме Божым пра д'ябла ўспамінаеш! Чакай, іду зараз да дамініканаў і распавяду ім пра тваё блюзнерства. Яны цябе праклянуць, а мы спячэм на вогнішчы, як рака. Бо ж, мосці панове, касцельнае скляпенне на нас упадзе, калі будзе сярод нас гэты недавярак. Прэч з дому Божага! Прэч!

І смела прайшоўшы па касцёле, адсунуў завалу і адчыніў дзверы, нібы дзеля выгнання Юношы; ды ён, аблаяны нават сваімі, прыціснуў вушы і схаваўся дзесьці пад амбонам. А тым часам праз адчыненыя дзверы ўваліліся гуртам нашыя, а сярод іх − бэшчаныя без міласэрнасці Сяліцкія, Нарніцкія з прыхільнікамі, што трапілі пад касцёл тады, калі перад дзвярыма стаяла нашая разгневаная шляхта, якая абвінавачвала іх, як ініцыятараў учынку Юношы, хоць яны і не прысутнічалі.

Які пачаўся галас і тлум, калі касцёл запоўніўся. Божа, злітуйся! Думаў, што не будзе гэтаму канца.

Не чакаючы рэасумпцыі сойміку, прыхільнікі падкаморага крычалі:

− Прапануем пасламі пана Сяліцкага і пана Рэвута! Віват, пан Сяліцкі і пан Рэвут!

Нашы гудзелі:

− Віват, пан Сулістроўскі і пан Брастоўскі − паслы ваяводства Полацкага!

− А дзе ён, той пан Сулістроўскі? − пыталіся адны.

− У антыподах! − падпускалі шпількі іншыя.

Тут пан Станіслаў нечакана з'явіўся на кратках і моцна закрычаў:

− Просім перш-наперш спаліць ерэтыка Юношу! Хто верыць у Бога − палі! Бо калі будзем падтрымліваць ерэтыкаў − самі марна загінем.

Усе Парчынскія загудзелі:

− Паліць ерэтыка, паліць!

Я зірнуў у вочы пану Станіславу.

− *Stemus simuir*[21] − сказаў ён мне. − Падтрымай маю прапанову, пане браце!

Ды зноў пачаў прамаўляць:

− З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Дык і мы, мосці панове, жывучы побач з ерэтыкам, не пазбегнем ерасі. Анічога не пачнем, пакуль гэтая справа не будзе вырашаная. Гэтая справа статус, тут гаворка пра збаўленне душы!

Зноў галас:

− Спаліць Юношу!

Я зразумеў, што хоча пан Станіслаў, а таму закрычаў:

− Не дазваляю! Юноша не толькі ерэтык, але і чараўнік. Сам быў сведкаю, як ён раз выпіў тры гарцы моцнага трайняку і не ўпіўся. Гэта не так сабе! Гэта − чары! Гэта не жарты! Але па справядлівасці трэба перш-наперш, каб быў *jure victus*[22], а пасля належыць выпрабаваць вадою. Я ведаю ўвесь *proceder*[23] гэтае аперацыі, бо ўжо чатыры бабы выпрабоўваў; дык прашу пра *эксгібіцыю*[24] асобы чараўніка, а я яго *ex nunc solita praxi*[25] выпрабую. Калі патоне, то і выцягваць не трэба, бо ерэтык; а калі будзе плаваць зверху, то чараўнік. І на гэты спектакль я запрашаю ўсіх паноў братоў шляхту і дабрадзеяў.

− Няма згоды! − крычаў Сьвебода і сьвебодчыкі. − Навошта гэтая цырымонія з ерэтыкам? Палі! Хто верыць ў Бога − палі!

− Выпрабоўваць вадою! − крычаў я і даў знак сваім, якія зараўлі так, што аж касцёл затросся. − Выпрабоўваць вадою чараўніка Юношу! Дзеля святое справядлівасці, выпрабоўваць вадою!

Паны ўрадоўцы са здзіўленнем глядзелі на нас.

− Святыя айцы! − сказаў ваявода. — Вы што, ашалелі?

− Не хвалюйся, пан, − шапнуў яму пан Станіслаў, − не спалім, толькі выкурым гэтага задзіру і п’яніцу. І крычаў моцна:

− Ці паліць, ці выпрабоўваць вадою, але спачатку просім пра *экстрадыцыю*[26] Юношы… А хто яго бараніць будзе, той сам пракляты.

А я крычаў:

− Запрашаю паноў братоў на выпрабаванне вадою!

Юноша штосьці лемантаваў ад крыўды пад амбонам, але ніхто яго не чуў; а калі яшчэ хтосьці з запончыкаў крыкнуў:

− Гэта цікавы спектакль − выпрабоўваць вадою чараўніка! Ніколі ў жыцці такога не бачыў. Мосці панове, давайма аддадзім Юношу на спробу.

Ён, бачачы, што ўсе гатовыя з-за цікаўнасці выдаць яго на страту, цішком па-за калонамі выбраўся з грамады і ўцёк з касцёла.

Тым часам пан Падвінскі пісаў і пісаў. Пан ваявода, хоць колькі ўжо разоў падымаўся і пачынаў сваё: «Святыя айцы!», але, заглушаны нашым крыкам, зноў сядаў і чакаў; тут пан Падвінскі даў галавою знак, што ўжо закончыў. Тады ваявода ўзняўся дзеля рэасумпцыі сойміку; з прычыны, што езуіты не падрыхтавалі прамовы, хоць двойчы да іх у Полацак пасылалі, а красамоўства пана ваяводы *ex abrupto*[27] ніякае, дык ён, паўтарыўшы зноў:

− Святыя айцы! Панове браты і дабрадзеі! − толькі дадаў: − Шчыра прашу выслухаць рэасумпцыю нашага пасольскага сойміку, напісаную годным земскім урадоўцам вяльможным пісарам Падвінскім, *cum laudo circa*

*securitatem publicam*[28] , на што, думаю, будзе згода ўсяго шаноўнага ваяводства.

– Што за *лаўдум*[29] ? Якое лаўбум? – абазваліся Сяліцкія. – На гэта няма згоды.

– Спачатку паслухайце гэтае лаўдум, – сказаў, падняўшыся, пан пісар. – Бо крычыце, не ведаючы нічога.

Прамотар[30] іх усіх – падкаморы, паважагочы пісара ды, як і ваявода, лічачы яго сваім, як і мы лічым яго нашым, махнуў рукою на сваіх – і цішыня.

Пан пісар спакойна прачытаў сваю рэасумпцыю і лаўдум, у якім выказваў, каб кожны, хто *in tractu*[31] паседжанняў у касцёле выхапіць шаблю, быў прызнаны *tanquam contumax*[32] і выгнаны з кола.

– Як гэта? – лемантавалі запончыкі. – А на якое ліха шабля, калі яе даставаць нельга. Пане пісар, прычапі сабе лучыну на бок. Пане ваявода, загадай сваім жаўнерам куркі з мушкетаў адкруціць, дык і мы тут жа шаблі адчэпім. Пан Падвінскі скарумпаваны! Няма згоды!

Дык зноў спрэчкі сярод старшыны за краткамі, і звада ды крыкі ва ўсім касцёле… Раптам гук паштовае трубы пачуўся ля касцёла… Змоўкла гамана, усе задумана павярнулі вочы на дзверы, у якіх паказаўся пан Алаіз Суліструўскі, пісар вялікі літоўскі.

Шляхта нашая полацкая яго не ведае: ён *de radice*[33] ашмянец; там мае свае маёнткі – Шэметаўшчыну, Вішнёва, Чурлёні, куды мы заўсёды заязджаем з панам ваяводам, вяртаючыся з Вільні. Але як прызначылі зверху, каб з Ашмянскага павету пасламі былі пан Кацёл і пан Бянькунскі, дык пан пісар вялікі літоўскі, маючы ў Полацкім ваяводстве нейкі фальварак, вырашыў абірацца тут і напісаў папярэдне пра гэта ваяводу.

Вялікі шум учыніўся на ягонае з’яўленне. Зрабілі яму шырокі праход аж да кратак, ідучы якім, ён кланяўся ва ўсе бакі. А вестка хто ён імгненна разышлася па касцёле, як і тое, што прыехаў наўпрост з Варшавы.

Не высокая гэта *крэатура*[34] , пан Сулістроўскі, але ж галава! Разумны, далёка да яго нашаму пану Падвінскаму. Не мае ён папулярнасці сярод шляхты і не імкнецца да яе. Не любіць нават яго ашмянская шляхта, бо як з’явіцца на сойміку, дык і закончыўся соймік. Без прамоваў, без аргументаў і *трактаментаў*[35] – усё выдатна на асобных з кожным кандыдатам канферэнцыях уладзіць, што яны і не заўважаць, як знікне заўзятасць, святы спакой прыйдзе, stalla і пасады атрымоўваюць тыя прэтэндэнты, пра каго думаў перад соймікам адзін толькі пан Сулістроўскі, а шляхце і не снілася! Дык вяртаючыся пасля, апусціўшы насы на квінту, дадому, праклінал Сулістроўскага, бо гэты інтрыган і фармазон закончыў *insperate*[36] соймік, а іх заўчасна ад шаблі і мёду да сахі і вады адправіў. Падышоўшы да стала, пан Сулістроўскі фамільярна абняў пана ваяводу, прыязна прывітаўся з усімі і дастаў з-за пазухі ліст з вялікаю белаю пячаткаю, аддаў яго пану ваяводу,

кажучы: *«Ад Яго Мосці Караля!»*[37] Пан ваявода, дастаўшы ліст з каперты і пазнаёміўшыся з ім, сказаў:

– Святыя айцы! Панове браты і дабрадзеі! Ліст Міласцівага Пана датычыць хутчэй усяго ваяводства, чым аднаго мяне, дык я прачытаю яго ўголас.

Усе з цікавасцю наставілі вушы, і пасля гвалту прыйшла цішыня, нібы анёл праляцеў. Чытаў пан ваявода гучна *ut sequitur*[38] , я ж цяпер той ліст перапішу сабе. Гэта ж не жартачкі – ліст ад каранаванае асобы!

«Вяльможны ласкава нам мілы!

Прыходзіць час выбараў паслоў земскіх на сойм, законам прызначаны. Шаноўнае Полацкае ваяводства відавочна мае ў сваім гроне мужоў, святло і міласць якіх да грамадскага дабра можа годна адпавядаць надзеям і клопатам Нашым каралеўскім; але адпавядала б Нашым зычэнням, каб з гэтага ваяводства Вяльможны Алаіз Суліструўскі, пісар вялікі літоўскі, і шляхетны Міхал Брастоўскі былі абраны пасламі. Паведамі, Ваша ласкавасць, гэтае Наша зычэнне шаноўнаму Полацкаму ваяводству, сабранаму на соймік, а таксама і пра каралеўскую ласку. Добрага здароўя Вашай ласкавасці ад Бога зычым».

Пасля чытання зноў стаяла цішыня, але нехта з лавак абазваўся:

– Ласка панская на пярэстым кані ездзіць!

Нібы разбуджаны гэтым, падняўся пан падкаморы Сяліцкі, папрасіў слова і сказаў:

– *Salvo respectu*[39] ліст Найяснейшага пана; бо я лічу, што гэта ёсць *in praejudicium*[40] нашае шляхецкае прэрагатывы – абірання ўрадоўцаў паводле нашае волі. Калі я ад бацькоў, дзядоў і прадзедаў сваіх спрадвечны *civis et servus*[41] гэтага шляхетнага ваяводства і кожнага з братоў шляхты *ausus sum*[42] функцыяй пасольскай на будучы, дасць Бог, сойм уганараваць, і гэтага прашу ў вас; і таму, маючы надзею на вашыя братнія пачуцці (тут ён кланяўся ва ўсе бакі), я не адмаўляюся ад намераў і паважанага Яснавяльможнага пісара літоўскага, нягледзячы на тое, што яго манарх падтрымлівае, запрашаю на ватаванне.

Пан Суліструўскі стаяў спакойна, нічога не адказваў, толькі падкручваў вусік. А шляхта крычала:

– Просім пана Сяліцкага! Шум перапыніў пан Станіслаў, закрычаўшы:

– А вось *Рэвэрэндысімус*[43] Рэвут з казаннем.

Бо з’явіўся на амбоне пан Рэвут. Павярнуліся ўсе да амбону, а пан Рэвут так прамаўляў:

– Браты шляхта! Я ваш брат шляхціц! А шляхціц на загродзе роўны ваяводзе! Гэта вядома ўсім. А што да Ягамосця караля, то ён у Варшаве, а мы ва Ушачах. Пан кашталяніч – сенатарскі сын, а я лоўчыц з Амтаровіч (так называецца фальварак пана Рэвута), і хто з нас не будзе паслом, няхай р... з’есць у кашы і застанецца тым, што застанецца. *Dixi*[44] .

– Брава! – крычала шляхта. – Брава! Віват, пан Рэвут, віват пан лоўчыц, пасол наш! Віват!

– Просім пана ваяводу прызначыць ватаванне, кандыдаты вядомыя, – прапанавала варожая нам старшына. Момант быў крытычны, бо нашыя таксама мармыталі, асабліва супраць пана Сулістроўскага:

– Навошта нам ашмянец, калі маем уласных?

Зразумеў ён, што можа здарыцца, дык шапнуў на вуха пану ваяводзе, а той сказаў:

– Святыя айцы! Час позні, соймік рэасумпаваны, аднак сесію я адкладваю на заўтра.

– Няма згоды! – крычалі *ex opposito*[45] . – Няма згоды!

– *Pluralitas*[46] відавочная, – дадаў пан Сяліцкі. – Альбо няхай панове супернікі нашыя дабраахвотна адмаўляюцца, альбо, мосці ваявода, просім пачаць ватаванне.

Закіпела ў гэты час як у гаршку. Нашыя крычалі, што сесія адкладаецца на заўтра. Глушылі іх праціўнікі, гарланячы:

– Пане ваявода, давай *калкулы*[47] . Віват, пан Сяліцкі і пан Рэвут!

Рады ўжо аніякае не было. Зноў сказаў пан ваявода:

– Святыя айцы! Адклаўшы сесію, нам няма чаго тут чыніць.

І збіраўся выйсці тудою, кудою і заходзіў – праз закрыстыю.

А пан Сяліцкі паведаміў, што ў такім разе яны абяруць сабе маршалка альбо ён сам, як падкаморы, будзе працягваць паседжанне.

– *Qui jure?*[48] Святы ойча!

Ужо блізкую зваду перапыніў пан Сулістроўскі. Ён падышоў да пана Сяліцкага і сказаў па-свойму, гэта значыць, ціха і сціпла:

– Май ласку, Мосці падкаморы, згадзіцца на адклад сесіі да заўтра; гэта можа адпавядаць зычэнням Найяснейшага пана, які праз мяне цяпер перадае пану довад свае ласкі панскае і ўзнагароду ягоных грамадскіх заслугаў.

– Што гэта? – запытаўся падкаморы.

– Цяпер не час і не месца тлумачыць важную рэч сярод такога тлуму; але проша мне верыць і не пашкадуе пан.

Сяліцкі пачаў лагаднець і раіцца са сваімі. Шляхта, не ведаючы ні пра што, усё яшчэ раўла… А тут пан Станіслаў зноў з'явіўся на кратках і крыкнуў на ўсё горла:

– Пане Матэвушу! Вядзі, вашэць! – І зноў схаваўся ў тлуме.

– Да якога Матэвуша звяртаешся? – запытаўся я.

– Да кожнага, які тут ёсць, пане браце! Убачыш вынікі.

І сапраўды, учыніўся рух сярод шляхты. Пяць ці болей знайшлося Матэвушаў, і кожны, думаючы, што гэта яму загадвалі, і гэтым самым ён лічыцца кіраўніком свае грамады, хацеў трымацца такое прэпандарэнцыі; дык склікаў, збіраў, штурхаў, гаспадарыў і, нарэшце, хтосьці з іх, падняўшы шапку ўгору, закрычаў:

– На абед, мосці панове! На крупнік і смажаніну, мосці панове! Спадабалася такая прапанова.

– На смажаніну! На смажаніну! – ахвотна паўтаралі браты шляхта, забыўшыся пра соймікавую калатнечу.

І Матэвушы хутка вывелі з касцёла большую палову грамады.

– Святыя айцы! – сказаў ваявода.

– І я згаджаюся з гэтым праектам і шляхетнага нашага госця, а з ім і ўсё кола шаноўных урадоўцаў шчыра прашу на абед.

Зацікаўлены абяцанымі дзеля яго каралеўскімі ласкамі, згадзіўся пасля пэўнай *малестацыі*[49] і падкаморы. Дык усе гуртам мы выйшлі з касцёла і хутка ўсе Ўшачы аджыўляліся смажанінаю.

---

[1] Вайсковую нараду (лац.)
[2] Небяспека (лац.)
[3] Крэсла (лац.)
[4] Святы Сакрамент (лац.)
[5]Тут: у кампаніі (лац.)
[6] Тут: моцнага (гарэлкі ці мёду) (лац.)
[7] Тут: пад маёй рукою, пад маім кіраўніцтвам.
[8] Частка касцёла, дзе знаходзіцца вялікі алтар, якую ў часе набажэнства займае духавенства
[9] Брама з металічных альбо драўляных прутоў
[10] Сказана – зроблена (лац.).
[11] Нахлебнікі, пенсіянеры.
[12] Вельмі добра, раскошна
[13] Цёмна-сіні
[14] Чырвоны гранат.
[15] Шагрэневае скуры
[16] Блізу (лац.).
[17] Грэтая гарэлка з медам і прыправамі.
[18] Імя і мянушку (лац.).
[19] Павага, пашана
[20] Аслупянелі (лац.).
[21] Давайма разам! (лац.).
[22] Пакараны па закому (лац.).
[23] Ход (лац.).
[24] Выданне.
[25] Як гэта часта раблю (лац.).
[26] Выгнанне.

[27] Без падрыхтоўкі (лац.).
[28] Пастанову адносна грамадскае бяспекі (лац.).
[29] Ухвала, соймікавая пастанова.
[30] Натхняльнік, ініцыятар, пратэктар, кіраўнік.
[31] У часе (лац.).
[32] Парушальнікам закона (лац.).
[33] Па паходжанню (лац.).
[34] Асоба, індывідыум.
[35] Частавання.
[36] З нечаканым вынікам (лац.)
[37] Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга караля Рэчы Паспалітай (1764-1795)
[38] Як малазначнае (лац.)
[39] Пазбаўляю павагі (лац).
[40] Занядбанне, папярэдняе вырашэнне (лац.).
[41] Грамадзянін і слуга (лац.).
[42] Адважыўся (лац.).
[43] Прывялебны (лац.).
[44] Я сказаў (лац.).
[45] Праціўнікі (лац).
[46] Большасць (лац).
[47] Картка для выбараў з напісаным прозвішчам кандыдата альбо шар дзеля галасавання.
[48] А ці законна? (лац.).
[49] Надакучлівых просьбаў.

# 1839 г. ИСПОВЕДАНИЕ ВЕРЫ ГРЕКО-УНИАТСКОЙ ЦЕРКВИ

*Большасць уніяцкіх святароў, якія ў 1839 г. выступілі супраць скасавання Уніі, служыла ў царквах Лепельскага павету. Уніяцкія святары, як правіла, перадавалі свой занятак сынам, бралі шлюбы таксама з дачкамі святароў і складалі такім чынам даволі згуртаваную карпарацыю. Сярод прозвішчаў тых, хто падпісаўся ў абарону Уніі – Хруцкі (бацька вядомага мастака І. Хруцкага), Ігнатовіч ды Шалепін (сваякі найбольш актыўных змагароў за захаванне Уніі І. Ігнатовіча і М. Шалепіна), Лапа, Стукаліч, Данілевіч, Нарбут, Пшчолка – прозвішчы, носьбіты якіх пакінулі прыкметны след у гісторыі беларускай культуры. Частка уніятаў Лепельскага павету да ліквідацыі Уніі паспела перайсці ў лацінскі абрад. Толькі да Лепельскай лацінскай парафіі паспелі далучыцца 1963 уніяты. Расейскія ўлады прымушалі іх перайсці ў праваслаўе, аднак здолелі прымусіць толькі 83 асобы. Гэта тлумачыць, чаму і праз 70 гадоў лепельскія каталікі кепска ведалі польскую мову – бо яны былі карэннымі беларусамі, нядаўнімі выхадцамі з уніятаў.*

Мы ниже сего собственными руками подписавшиеся веруем и исповедуем все то, что только в Символе веры, употребляемом в Римско-Католической Церкве, заключается, сиречь: Веруем в единаго Бога, Отца вседержителя. Творца Неба и Земли: видимых же всех и невидимых. И в единаго Господа Иисуса Христа. Сына Божия единороднаго, от Отца рожденнаго прежде всех век. Света от Света, Бога истынна, от Бога истинна, рожденна а не сотворенна. Единосущна Отцу имже вся быша. Нас деля человек и нашего ради спасения Сшедшаго с Небес, и воплотившагося от Духа Свята и Марии Девы, и вочеловечшагося. Распятаго же за ны при Понтийстем Пилате, страдавша, и погребенна: И воскресшаго в третий день по писанием. И возшедшаго на Небеса, и Сидящаго одесную Отца: И паки градущаго со славою, судити живым и мертвым. Его же царствию не будет конца. И в Духа Святаго, Господа Животворящаго, иже от Отца и Сына исходящаго, иже со Отцем и Сыном спокланяема и сославима, глаголавшаго Пророки. В Едину, Святую, соборную и Апостольскую Церковь. Исповедую Едино крещение во оставление грехов. Чаю Воскресение мертвых и жизни будущаго века.

Почитаем так-же Всленския соборы, а именно: Никейский I. Константи-

нополитанский 1-й с раду вселенский II. Ефейский 1-й с раду вселенский III. Халкедонский с раду Вселенский IV. Константынополитанский 2. с ряду Вселенский V. Константинополитанский 3-й с раду Вселенский VI. Никейский 2-й с ряду вселенский VII. Константынополитанский 4-й, с ряду Вселенский VIII. Почитаем веруем и исповедуем все сих соборов постановлении.

Почитаем так же и признаем все все протчия соборы признаваемы Вселенскими Римско-Католическою Церквею а в особенности Флорентийский собор, и исповедуем все, что на оном постановлено, а именно: Что Дух Св: есть от Отца и Сына прежде век, и свое существо и свое бытие от Отца равно и от Сына имеет, и от Отца равно и от Сына прежде век, яко от единаго начала, и единаго дыхания происходит. Что сии Слава: и Сына для объяснения Догмата веры, и предупреждения противных толкований, не только кроме греха, но и надлежаще включены в Символ веры, на томже основании, на каком Символ веры был объясняем на прежних вселенских соборах.

Что на опресноках равно как и на заквашеном хлебе тело Христово истинно освящается, но священники должны по сему соблюдать обыкновение своей Церкви или восточной или западной.

Что души тех, кои в истинном раскаянии представляются от сего мира, пока достойными делами покаяния неудовлетворят справедливости Божией за свои прегрешении, после разрешения от тела, в муках очистилища очищаются. Облегчение от сих мук, и совершенное избавление приносять; молитвы, посты, милостыни, литургии и тому подобныя богоугодныя дела, которыя живыи чинять за умерших по постановлению Св. Церкви. Души тех которые без искажения греховнаго проставляются, тоже и те, которыя по искажении или в теле, или разрешившись от уз тела, очищены, водворяются за сим в чертоги Небесный и наслаждаются видением Господним по мере благих дел своих, а тех, которые проставляются от сего мира в грехах, души идут в геенну, но и там наказываются по мере преступных дел своих.

Что Папа Римский есть преемником Петра Апостола, не только пользуется правами наравне с прочими Епископами и Патриархами в пределах своих, но имеет к тому изключительное высшее Начальство яко перво и верховноначальный Иерарха вселенской Апостольской Церкви, и сие преимущество первенства принадлежит ему по установлению самаго Спасителя мира, которому для того и мы в делах относящихся к душевной пользе послушание должны и изъявлять оное обязуемся.

Почитаем также и признаем Вселенский Триденский собор, и исповедуем все, что на оном постановлено, как то: о безкровной жертве, о седми Таинствах, о преданиях Апостольских и церковных, а о грехе первородном, о оправдании человека, о священных ветхаго и новаго завета Книгах и их толкований и прот.

К тому все признаем, веруем и исповедуем, что только признает, верует, и

исповедует Св. Католическая Апостольская Церквь в восточном и западном обрядах соединенная, и признавающая своим Иерархом и Правителем Святейшего Папу Римскаго, каким ныне, есть Григорий сего имени Папа XII.

Сие наше исповедание цело, и ненарушимо до последняго дыхания жизни нашей соблюдать обещаемся, будем, и обязуемся, и таковое наше обещание и обязательство возобновлением клятвы, утверждаем, так нам Господь Бог да поможет, и Св. Его Эвангелие Аминь.

*Ореховской Церкви Священник Антоний Корзун*
*Бочейковской Церкви Настоятель Фадеи Капулцевич*
*Завечельской Церкви Иереи Стефаний Заблоикий*
*Бельской Церкви Настоятель Иоанн Шавлевич*
*Низголовской Церкви Иерей Фома Чабановский*
*Копцевицкой Церкви Иерей Никодим Никонович*
*Мартиновской Церкви Иерей Иоанн Шелепин*
*Ореховской церкви священник Петр Клодницкий*
*Апанасковской Церкви Священ.: Григорий Заблоикий*
*Лешневской Церкви Священник Павел Высоцкий*
*Туржецкой Церкви Иерей Стефан Пщолко*
*Приходской Туровлянской Церкви Иерей Иоанн Казакевич*
*Верховской Церкви Приходский Священник Андрей Никонович*
*Хотиньской Церкви Священник Иоанн Котырло*
*Усайской церкви Иерей Фома Хруцкий*
*Заболоцкой Церкви Иерей Игнатий Игнатович*
*Вороньской Церкви С-к Иоанн Закалинский*
*Св. Петро-Павловско-Бешенковской церкви Иерей Иоанн Лаппа*
*Переброцкой Церкви Священник Флориян Манцевич*
*Черницкий приходский священник Иоанн Лоский*
*Котовской Церкви настоятель Иоанн Стукалич*
*Королевицкой Церкви св. Иоанн Лаппа*
*Соржицкой Церкви Ереи Василий Квятковский*
*С-то Илинско Бешен. Церкви Иерей Пий Перребилло*
*Настоятель Скридлевский С. Иоанн Квятковский*
*Викарный Скридлевский С. Адам Гнитто*
*Дворецкой Церкви настоятель Иоанн Точицкий*
*Цяпинской Церкви священ. Иоаким Хруцкий*
*Луковской Церкви свящ. Антоний Харкевич*
*Почаевицкой Церкви Настоятель Адам Рончевский*
*Священник Ияков Рончевский*
*Священник Латыголицкаго Прихода Иосиф Нарбут*

*Турецкой церкви Настоятель Матфеи Романцевич*
*Заборской Церкви Священник Петр Романцевич*
*Ставицкой Церкви Священник Василий Заблоикий*
*Лисиченской Церкви Настоятель Киприан Киселевич*
*Без местный священник Василий Габович*
*Настоятель Замоцкой церкви Казимир Милановский*
*Бывший Благочинный и Настоятель Чашницкий*
*Иерей Захарий Марковский*
*Григоровицкой Церкви Священник Николай Данилевич*
*Настоятель Горочевицкой Церкви Священник Петр Ловецкий*
*Верховской Церкви Приходский Священник Николай Никонович*
*Свицинской Церкви священник Иоанн Тучкевич*
*Ульяновицкой Церкви Настоятель Иоанн Мацкевич*
*Лесковицкаго прихода Настоятель Священник Василий Подерня*
*Лучиновицкой церкви Священник Сымеон Хруцкий*
*Стрижевской Церкви Священник Иосиф Данилевич*
*Улянской Церкви Настоятель Григорий Еллиашевич*
*Обольской Церкви Священник Иосиф Лаппа*
*Дризенский Благочинный Сволнянский Свщк Стефан Плещинский*
*Настоятель Губинской церкви Священник Антоний Ловецкий*
*Настоятель Каменской Церкви Михаил Федорович*

## Лепельскі павет і
## Лепельскі дэканат Каталіцкае Царквы




○ Сучасныя касцёлы ( паводле стану на 2004г.)

∘ Касцёлы паводле стану на 1914г.

× Касцёлы, скасаваныя ў 1868 г.

· Капліцы ( каля 1914г.)

— мяжа лепельскага павету ў канцы XIXст.

Аўтар П. Белы

# СВЯТЫ КАЗІМІР
# У ПААЗЕР’І

*400 гадоў каталіцызма ў Лепельскім краі*

Над выданнем працавалі:
А. Белы
І. Зямчонак
Л. Ульскі
В. Явід

Выдавецкая ініцыятыва «LEPLE»
наклад 299 асобнікаў

---

У 2000г. было выдадзена:
**Ул. Шушкевіч “Падарожжа вакол Лепельскага возера”**

Рыхтуюцца да выданьня:
**А. Стэльмах “Бярэзінская водная сістэма”**
**Суполка аўтараў. “Ушачы”**
**Ул. Шушкевіч “Вазёры Лепельшчыны”**

**Калі макет кніжкі быў ужо скончаны…**

…24 кастрычніка ва Ушачах, пасля пяцігадовых рэстаўрацыйных прац, быў урачыста асвечаны біскупам Віцебскай дыяцэзіі Ўладыславам Блінам, касцёл св. Лаўрэна. На свяце былі прысутныя каталікі з Лепеля, Чашнікаў, Новалукомля, Блізніцы. Народны паэт Беларусі Р. Барадулін прачытаў верш Папы Рымскага Яна Паўла II у сваім перакладзе…

…Дастаткова цяжка адсачыць усе падзеі з жыцця нашых касцёлаў,на вачах яны робяцца гісторыяй. Магчыма гэта толькі хіба з Вашай дапамогай, шаноўныя чытачы. Пра родныя вёскі, парафіі, людзей пішыце:

**220050, Мінск-50, а/с 283.**



**ЛЕПЕЛЬ І КРАЙ у сусветным павуцінні:** ***www.lepel.tut.by***

Былыя лепельчане адзываюцца – ад Новага Ёрку да Магадану, ад Стакгольму да Бэт Яшэму.